# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

5 красавіка 2019 года №14 (1249) 18+










# Што рабіць, калі саржавеў VIN-код



**Шукаем адказ з судовым экспертам**

старонка 17

На фота: судовы эксперт з Маладзечна Аляксей Рабовіч наносіць адмысловы састаў на паршткі нумара кузава. Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.



**На якія экскурсіі можна схадзіць падчас Фэсту экскурсаводаў**

старонка 2

**У Вілейцы зладзілі першы бізнес-форум. Абмеркавалі, як наладзіць дыялог паміж уладай і бізнесам**

старонка 3






ISSN 1991–7155





Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Вучні і настаўнікі адзначыліся ў Энергамарафоне-2018

ВІЛЕЙКА

Дэлегацыя Міншчыны паўдзельнічала ў падвядзенні вынікаў конкурсу «Энергамарафон-2018» у Гродне. Спецыяльнымі прызамі там адзначылі прадстаўнікоў Вілейшчыны.

Калектыў Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця атрымаў ад Дэпартамента па энергаэфектыўнасці Дзяржкамітэта па стандартызацыі дыплом удзельніка і сертыфікат на 10 000 рублёў.

Каштоўны падарунак атрымала і вучаніца вілейскай пачатковай школы №6 **Сафія Летка.**

Ільянцы прадставілі працу «Рэалізацыя мэт устойлівага развіцця праз арганізацыю практыка-арыентаванага падыходу ў адукацыйным працэсе».

Сафія Летка з шостай школы прадставіла відэаролік «Наперад з намі ў будучыню».

Гэтыя працы занялі першыя месцы на абласным этапе.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дзвюх жыхарак Смаргоншчыны ўзнагародзілі Ордэнам маці

СМАРГОНЬ

Пра гэта паведамляе Указ **Аляксандра Лукашэнкі** ад 21 сакавіка.

За нараджэнне і выхаванне пяці і больш дзяцей Ордэнам маці ўзнагародзілі:

- **Алену Давідовіч** – інспектара па кадрах вучэбна-педагагічнага комплекса «Крэўскі яслі-сад – сярэдняя школа».
- **Вольгу Фралову** – аператара свінагадоўчых комплексаў Смаргонскага камбіната хлебапрадуктаў.

**Паводле сайта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

## «Мудры ўзрост» наведаў выставу, прысвечаную Другой сусветнай

МАЛАДЗЕЧНА

Старшыні пярвічных ветэранскіх арганізацый Маладзечаншчыны разам са старшынёй райсавета Станіславай Зубковай і сябры клуба «Мудры ўзрост» з кіраўніком Аленай Камісарук першымі наведалі выставу «Пакаленне міру пра вайну і мір».

Загадчыца аддзела музея **Вольга Шылько** падрабязна расказала прысутным пра падзеі Другой сусветнай вайны, пра вязняў Мінскага гета, пра дзяцей на прымусовых работах, пра аперацыю па вызваленні Беларусі «Баграціён».

У раздзелах «Дзеці малююць вайну і мір», «Гаворыць пакаленне міра» прадстаўлены малюнкі, фотаздымкі, відэаматэрыялы і аўдыёзапісы.

Мэта выставы – паказаць Другую сусветную праз успрыняцце людзьмі розных пакаленняў: пачынаючы ветэранамі і заканчваючы моладдзю.

**Мікалай КОТ, Маладзечна.**

## Танцоры ўзялі два дыпломы на Фестывалі харэаграфічнага мастацтва

ВІЛЕЙКА

З чарговымі перамогамі з пятага Адкрытага фестывалю харэаграфічнага мастацтва вярнулася ў Вілейку студыя танца «Фарсаж».

У намінацыі стрытшоу танцоры шасці-васьмі гадоў занялі другое месца з танцам «Локці на старт».

А крыху старэйшыя прадстаўнікі з Вілейкі, што ва ўзросце ад 9 да 11 гадоў, сталі першымі з нумарам «Паці».

Пра гэта карэспандэнту расказала кіраўнік студыі **Алеся Раздзялоўская**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У красавіку і маі зладзяць рэгіянальныя кірмашы

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Сезон рэгіянальных кірмашоў на Міншчыне пачаўся ў мінулую суботу ў Слуцку.

У нашым рэгіёне 13 красавіка зладзяць такі кірмаш у Вілейцы, а чацвёртага мая – у Маладзечне.

Ветэранам вайны і інвалідам першай і другой групы набытыя прадукты даставяць дадому.

**Аддзел інфармацыі.**

## Масты праз Вілію і Ушу трэба рамантаваць

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Пра гэта паведамляюць на сайце officelife.media ў Пераліку дарог для рэканструкцыі на перспектыву.

Рамонт патрэбны 32 мастам у Беларусі. Сярод іх – мост праз Вілію на пад'ездзе да Вілейкі на 7,332-м дарогі Р28 Мінск-Маладзечна-Нарач.

Таксама мост праз раку Уша, што ў Маладзечанскім раёне на 60,008-м кіламетры той самай аўтадарогі.

**Сайт officelife.media.**



Падчас экскурсіі па Гелянове ў мінулым годзе.

# Гелянова, мясціны Багдановіча, сцяжыны Першай сусветнай

## Што прапануюць у рэгіёне на фэст экскурсаводаў

МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН
СМАРГОНЬ

**13-14 красавіка ў Беларусі па традыцыі зладзяць фэст экскурсаводаў. Некалькі экскурсій правядуць у рэгіёне. Чытайце і абірайце.**

### Зазірнуць у вайсковы гарадок Гелянова

З міжваеннай архітэктурай былога гарнізона ў Гелянове ад 1921 да 1939 года пазнаёміць краязнаўца **Уладзімір Садоўскі.** За польскім часам у раёне Гелянова месціўся гарнізон 86-га пяхотнага палка Войска Польскага. На пустцы ў некалькіх кіламетрах ад чыгуначнай станцыі вырас цэлы гарадок мадэрновых будынкаў.

**Тут працавалі архітэктары з Варшавы і Лодзі. Іх творы і сёння захоўваюць адметны для Беларусі выгляд і стан.**

Ахвотных паўдзельнічаць у экскурсіі запрашаюць **13 красавіка ў 14.00**. Збор каля будынка Мінскага абласнога драмтэатра. Адрас: **Чкалава, 7.**

### Далучыцца да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча

Запрашаюць таксама ў вёску Ракуцёўшчына ў Маладзечанскім раёне. Экскурсію правядзе дырэктар музея **Настасся Сярболіна.**

**У фальварку Ракуцёўшчына ў 1911 годзе ўжо хворы на сухоты паэт правёў найлепшыя месяцы свайго жыцця.**

На экскурсіі вы пазнаёміцеся з творчасцю паэта, адчуеце атмасферу сялянскага жыцця пачатку 20 стагоддзя, пабачыце тагачасныя прылады працы. Можна будзе зайсці ў дамок арандатара, дзе жыў Максім Багдановіч.

Збор каля ўваходу ў сядзібу 13 красавіка ў 12.00.

### Узняцца на Сінюю Гару

На экскурсію «Слядамі Першай сусветнай» запрашае гаспадар засценка Скрыплеў на Валожыншчыне **Васіль Грынь.** Удзельнікі пройдуць па лініі фронту – рускіх і нямецкіх пазіцыях. Наведаюць мемарыялы і салдацкія пахаванні.

**Маршрут наступны: Лоск-Крыўск-Крэва-Чухны-Баруны-Сіняя Гара-Дуды-Падберазь. Запланаваны пад'ём на Сінюю Гару.**

Збор 14 красавіка ў засценку Скрыплеў. Час паведамяць дадаткова.

### Сустрэцца ля вежы Кейстута

У старажытным Крэве зладзяць экскурсію «Рэха вайны ў Крэве». Экскурсавод – **Вольга Сямашка.** Таксама сябра фонда «Крэўскі замак» гісторык **Аляксей Друпаў** распавядзе і пакажа «раны» на целе Крэва і самога замка пасля Першай Сусветнай вайны.

**Алег Дзярновіч** – навуковец, кіраўнік археалагічных экспедыцый у Крэве раскажа пра археалагічны сезон Крэва-2019. Тут жа можна будзе падаць заяўкі на ўдзел у летніку (15-28 ліпеня), атрымаць адказы пра лёс замка. Чакаецца анімацыя і іншыя цікавосткі.

**Збор у Крэўскім замку ля вежы Кейстута 14 красавіка ў 13.00.**

Па словах адной з арганізатараў фэсту **Тацяны Гайдук**, экскурсаводы яшчэ працягваюць рэгістравацца. Калі ў рэгіёне з'явяцца нейкія новыя экскурсіі, мы абавязкова паведамім вам на старонках газеты і на нашым сайце rh.by.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Ці ёсць дыялог паміж мясцовымі ўладамі і вілейскім бізнесам?

## Што абмяркоўвалі на першым раённым бізнес-форуме

ВІЛЕЙКА

**29 сакавіка ў Вілейцы ўпершыню правялі раённы бізнес-форум «Канструктыўны дыялог. Развіваем рэгіёны». Арганізатары – Вілейскі райвыканкам, райсавет па падрымцы малога і сярэдняга прадпрымальніцтва і грамадскае аб'яднанне «ЗОВіК».**

У працы форуму паўдзельнічалі больш за 50 чалавек. Гэта прадстаўнікі Вілейскага райвыканкама і Мінаблвыканкама, бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў, Дэпартамента па прадпрымальніцтве Мінэканомікі, людзі, якія займаюцца малым і сярэднім бізнесам на Вілейшчыне. Была анлайн рэгістрацыя, а некаторых запрасілі персанальна. Па словах арганізатараў, разлічвалі на 50 чалавек. Атрымалася крыху больш.

Рыхтуючыся да форуму, восенню кандыдат сацыялагічных навук **Уладзімір Літвіновіч** правёў сацыялагічнае даследаванне на Вілейшчыне. Прадметам стаў дыялог паміж прадстаўнікамі бізнесу і мясцовымі ўладамі. На форуме прэзентавалі вынікі даследавання. Атрымалася наступная карціна: улады лічылі, што такі дыялог ёсць, а бізнес – што яго няма.

Арганізатары форуму распрацавалі сумесны План дзеянняў на 2019 год, каб дыялог паміж прадпрымальнікамі і ўладамі ўсё ж развіваўся. План атрымаў кожны ўдзельнік форуму.

– Такі дыялог неабходны, – лічыць адна з арганізатараў форуму, начальнік аддзела занятасці, кіраўнік аб'яднання **«ЗОВіК» Таццяна Цітуленка.** – Уявіце сабе, што ад малога і сярэдняга бізнесу ў вілейскі бюджэт паступае каля 30% сродкаў. Гэта нямала.

Удзельнікі форуму наведалі некаторыя прадпрыемствы Вілейшчыны, паўдзельнічалі ў подыумнай дыскусіі на тэму ўзаемадзеяння бізнесу і ўладаў.

Па словах Таццяны Цітуленкі, адзін са станоўчых момантаў форуму – тое, што прадстаўнікі бізнесу паверылі ў магчымасць дыялогу з уладамі.

Арганізатары лічаць, што адным мерапрыемствам нельга дасягнуць станоўчых вынікаў. Таму бліжэйшую актыўнасць плануюць ужо на красавік.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Таццяна Цітуленка і Уладзімір Літвіновіч падчас працы першага вілейскага бізнес-форуму.

ЛІЧБА НУМАРА

33 102

ГЕКТАРЫ ЛЕСУ ПЛАНУЮЦЬ ПАСАДЗІЦЬ У БЕЛАРУСІ Ў 2019.

ПАВОДЛЕ МІНІСТЭРСТВА ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.03 | 4.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1269 | **2.1417** |
| Еўра | 2.3951 | **2.4063** |
| Злоты, 10 | 5.5809 | **5.6174** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2906 | **3.2883** |
| Грыўня, 100 | 7.8540 | **7.9114** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **27.03** | **3.04** |
| Еўра | 2.3800/2.4000 | **2.3900/2.4100** |
| Долар ЗША | 2.1140/2.1340 | **2.1350/2.1520** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 27.03 | 3.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,99 | **18,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 3,80 | **4,50** |
| Баклажан, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **5,95** |
| Перац, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Радыс, 1 кг | 7,90 | **4,90** |
| Салата, 100 г | 1,30 | **1,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,70** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,99** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Ківі, 1 кг | 3,80 | **2,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **2,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,30 | **3,80** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Як правільна размясціць гной на падворку

МАЛАДЗЕЧНА

**Як вырашыць праблему, калі адзін сусед для лепшага ўраджаю размяшчае на ўчастку гной, а другому не падабаецца пах?**

Такая праблема ўзнікла ў жыхара Краснага Маладзечанскага раёна. Суседка выгрузіла свежы гной на свой участак. Куча ляжала недалёка ад вокнаў суседа. Цягам некалькіх дзён угнаенне заставалася на месцы.

– Такое адчуванне, што жыву на свінаферме, – скардзіцца Анатоль. – Тое самае было год таму, і вось зноў. Чаму я павінен цярпець гэтыя пахі?

Як вырашыць суседскую спрэчку, мы спыталіся ў старшыні Красненскага сельвыканкама **Валянціны Кісель**. Старшыня патлумачыла, што ўдзельнікі канфлікта жывуць у вёсцы, дзе натуральна займацца гаспадарчымі справамі, у тым ліку ўгнаеннем.

Суседка, што выгрузіла гной на свой прыватны падворак, пенсіянерка. Таму не магла ў момант разнесці ўгнаенне.

### Куды можна размяшчаць гной

Разам з тым пры працы з гноем гаспадарам неабходна прытрымлівацца некалькіх патрабаванняў. Некаторыя разгружаюць машыну з угнаеннем так, каб змесціва апынулася як мага далей ад уласных вокнаў.

Аб тым, як правільна дзейнічаць у такіх выпадках, расказаў загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Міхаіл Міхалевіч.**

1) Выгружайце гной на пляцоўку, якая знаходзіцца ў не бліжэй за 15 метраў ад вокнаў любога дома вакол участка.

Гэтае патрабаванне рэгламентуе архітэктурны нарматыў ТКП 45-3.01-117-2008 «Горадабудаўніцтва. Раёны сядзібнага жыллёвага будаўніцтва», табліца 4 пункта 6.2.8.

2) Паводле санітарных нормаў, ад месца скопішча гною да любога з калодзежаў павінна быць не менш за 20 метраў.

Патрабаванне рэгламентуюць два дакументы. Пастанова Саўміна №914 «Аб зацвярджэнні спецыфічных санітарна-эпідэміялагічных патрабаванняў…» у пункце 19 часткі 3. І санітарная норма №105 «Гігіенічныя патрабаванні да крыніц нецэнтральнага пітцявога водазабеспячэння» ў пункце 24.

3) Плануйце раскідаць гной як мага хутчэй. Калі не атрымліваецца раскідаць і заараць увесь гной у дзень выгрузкі, прыкрыйце яго накрыўкай, напрыклад, з поліэтылена. Так вы створыце менш нязручнасцяў і сабе, і суседзям.

Чым даўжэй гной стаіць без справы, тым больш пажыўных рэчываў выветрыцца. Адпаведна, тым менш вы ўгнаіце глебу і менш карысці атрымаеце ад гною.

**Эмілія ХВОЯ.**

## Выратавальнікі тушаць смецце і траву

ВІЛЕЙКА

Вясна – традыцыйны час, калі выратавальнікаў выклікаюць тушыць запаленае смецце і сухую траву.

У выхадныя, 30 і 31 сакавіка, работнікі вілейскага РАНС выязджалі на такія тушэнні 12 разоў.

– Восем разоў выязджалі ў суботу і чатыры разы ў нядзелю, – расказаў карэспандэнту інжынер групы нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзмітры Кляшняк.**

У нядзелю ўзгаранні былі ў Куранецкім і Хаценчыцкім сельсаветах.

Выратавальнікі папярэджваюць, што спальванне смецця і травы караецца па закону як папярэджаннем, так і штрафам.

Напрыклад, за спальванне сухой травы можна заплаціць ад 255 да 1020 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Вілейцы здарылася ДТЗ. Пешаход у бальніцы

ВІЛЕЙКА

Аварыя здарылася першага красавіка каля пяці раніцы.

Жанчына-кіроўца, што ехала па Стаханаўскай, наехала на 34-гадовага пешахода. Той ішоў па праезнай частцы.

Як распавялі ў Вілейскім РАУС, аварыя здарылася прыцемкамі. Кіроўца растлумачыла, што не заўважыла пешахода.

Пацярпелага з траўмамі забралі ў вілейскую бальніцу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Машына збіла падлетка. У яго – пералом рукі

СМАРГОНЬ

ДТЗ адбылося 31 сакавіка.

14-гадовы хлопчык з роварам у руках пераходзіў вуліцу Леніна па пешаходным пераходзе. У гэты час кіроўца «форда» з вуліцы Сініцкага паварочваў налева.

Атрымалася так, што машына штурхнула хлопчыка на асфальт і той зламаў руку.

**Паводле ДАІ Гродна.**

## Валожынца падазраюць у забойстве суседа

21 сакавіка жыхар Валожыншчыны прыйшоў дамоў і знайшоў там труп свайго 43-гадовага брата.

У злачынстве следчыя падазраюць 36-гадовага суседа забітага, расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Тацццяна Беланог.**

Стала вядома, што ў той дзень пацярпелы быў у гасцях у падазраванага. Яны разам выпівалі. Пацярпелы прызнаўся суседу, што нядаўна скраў у яго 20 рублёў.

Мужчыны пачалі сварыцца. Падазраваны стаў біць 43-гадовага суседа рукамі і нагамі па жыццёва важных органах. Потым адвёў яго дамоў, дзе пакінуў аднаго.

Тут 43-гадовы мужчына памёр.

Фігуранта падазраюць у нанясенні цяжкіх пашкоджанняў, якія прывялі да смерці чалавека па неасцярожнасці.

Мужчыну заключылі пад варту. Следчыя праводзяць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Якія парушэнні знайшлі ў гаспадарках Мядзельшчыны

МЯДЗЕЛ

Мядзельская міліцыя праводзіць у раёне мерапрыемствы, каб захаваць сельгастэхніку і выявіць безгаспадарчасць, бескантрольнасць і крадзяжы таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў у час падрыхтоўкі да веснавых палявых работ.

Правяраюць 12 гаспадарак Мядзельшчыны.

Падчас маніторынгу ўстанавілі самыя распаўсюджаныя парушэнні. Гэта

– працяглы рамонт сельскагаспадарчай тэхнікі;

– захоўванне спісанай тэхнікі і лому металаў на тэрыторыі;

– знаходжанне ў непрацоўны час тэхнікі па-за мехдвароў;

– ненанясенне інвентарных нумароў на тэхніку;

– адсутнасць належнага кантролю за фізічным станам работнікаў;

– пашкоджанне агароджі іншыя.

Так у ААТ «Занарочанскі» былі ўсе вышэй пералічаныя парушэнні. Пры аглядзе гаражоў, а таксама мехдвароў, заўважылі, што захоўванецца тэхніка і запчасткі, транспартных сродкаў, у тым ліку і кузаўных частак, якія даўно спісаныя, але не здаюцца на металалом.

У «Мядельаграсервісе» таксама знайшлі ўсе вышэй пералічаныя парушэнні.

Такія ўмовы ствараюць магчымасці да крадзяжу абсталявання, вузлоў і агрэгатаў з тэхнікі, а таксама лому металу.

На адрас кіраўнікоў усіх сельскагаспадарчых арганізацый Мядзельскага раёна накіравалі прадстаўленні аб ліквідацыі прычын і ўмоў, якія садзейнічаюць учыненню злачынстваў і правапарушэнняў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Фота УУС Мінаблвыканкама.

Так выглядала небяспечнае рэчыва, што знайшлі ў аднаго з фігурантаў.

# Затрымалі закладнікаў псіхатропаў

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**Адразу дваіх закладнікаў псіхатропных рэчываў затрымалі супрацоўнікі маладзечанскага наркакантролю.**

Фігуранты працавалі на адну інтэрнэт-краму. І хоць паміж сабой яны былі знаёмыя і працавалі па ідэнтычнай схеме, кожны дзейнічаў сам па сабе.

Адзін працаваў у Маладзечанскім раёне, другі – у межах сталічнага раёна.

Міліцыянеры зацікавіліся 24-гадовым жыхаром Хажова. Афіцыйна малады чалавек нідзе не працаваў, у крымінальных зводках не фігураваў.

Паводле папярэдняй інфармацыі заняўся наркабізнесам месяц таму. Кажа, і першы заробак не паспеў атрымаць, як у справу ўмяшаліся аператыўнікі. Яго затрымалі ў Маладзечне пры садзейнічанні супрацоўнікаў упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі УУС Мінаблвыканкама і сілавой падтрымцы байцоў АМАПу.

У аўтамабілі гандляра знайшлі і канфіскавалі 30 скруткаў з асабліва небяспечным псіхатропным рэчывам альфа-PVP агульнай масай 9 грам. Тайнікі фігурант ладзіў у горадзе, у лясах Маладзечаншчыны, а таксама паблізу чыгуначных станцый.

Устанавілі, што працаваў ён па традыцыйнай схеме. З дапамогай інтэрнэту яму паведамлялі каардынаты месцазнаходжання зелля. Ён павінен быў забраць тавар, расфасаваць на больш дробныя партыі і раскласці скруткі з наркотыкамі.

У машыне ў падазраванага знайшлі палімерны пакет з нерасфасаваным парашком. Як паказала экспертыза, гэта быў псіхатроп альфа-PVP агульнай масай каля 15 грамаў.

Другім затрыманым стаў ураджэнец Вілейкі 1994 года нараджэння. Жыў у Маладзечне, падпрацоўваў. Яго затрымалі на найманай кватэры. Выявілі каля грама псіхатропу. Як патлумачыў сам хлопец, пакінуў для сябе. Таксама ў кватэры знайшлі фасовачныя пакеты і электронныя вагі.

Далей праваахоўнікам удалося знайсці 12 схованак на тэрыторыі Мінскага раёна, адзін – у Пухавіцкім раёне. Усяго канфіскавалі каля 25 грамаў мефедрона і 200 грамаў гашышу.

Абодвух закладнікаў заключылі пад варту.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Гарэў былы дзіцячы садок

АСТРАВЕЦ

Пра пажар у пакоі былога дзіцячага садка ў Варнянах паведамілі першага красавіка каля дзесяці раніцы.

Пажар пашкодзіў тры ложкі, пасцель, мікрахвалёўку, закурыў сцены.

Папярэдняя прычына – кароткае замыканне электрапрыбора, які пакінулі ўключаным у разетку.

**Паводле сайта МНС.**

## На Вілейшчыне гарэў дом. Маці з дачкой паспелі выйсці

ВІЛЕЙКА

Пажар здарыўся пасля дзевяці раніцы ў вёсцы Залазоўе, што ў Даўгінаўскім сельсавеце, паведамілі ў РАНС Вілейкі.

Першымі агонь заўважылі суседзі. Яны і патэлефанавалі ў РАНС. Адкрытым полымем гарэў дах на жылым доме. Гаспадары, 84-гадовая маці і 52-гадовая дачка паспелі выйсці самастойна.

Агонь знішчыў 20 квадратных метраў даху. Маёмасць не пацярпела.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Міліцыя шукае пацярпелых ад дзеянняў жыхара Краснага

МАЛАДЗЕЧНА

34-гадовага жыхара Краснага падазраюць у махлярстве.

Ён кіраваў будаўнічай фірмай ТАА «ВіміМекс». Ад 2016 года кампанія наладзіла вытворчасць вырабаў з драўніны. Рабілі альтанкі, лазні ў выглядзе «бочак».

Пры афармленні заказаў мужчына заключаў дагаворы і браў папярэднюю аплату, 50-70% ад кошту. Выдаваў квітанцыі або распіскі. Пасля чаго знікаў разам з грашыма.

Заявы аб ашуканскіх дзеяннях бізнесмена сталі паступаць у міліцыю ў кастрычніку 2017 года.

У некаторых выпадках дырэктар фірмы заказчыкам асабіста паказваў вытворчасць і якасць матэрыялу для вырабаў.

Па словах прадстаўнікоў арганізацый, якія звярнуліся ў міліцыю, запазычанасць склала больш за 7500 рублёў.

Мужчына растлумачыў, што ён сапраўды афармляў заказы і браў першапачатковы ўзнос для піламатэрыялаў. Але выканаць дагаворныя абавязацельствы не змог з-за няякаснай драўніны.

Маладзечанскі РАУС звяртаецца да грамадзян, якія пацярпелі ад ашуканскіх дзеянняў названага мужчыны, з просьбай паведаміць пра гэта па адрасе: Маладзечна, Галіцкага 23 або па тэлефонах 8 (029) 554-74-26, 8 (0176) 77-16-56, 102.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



# Як знайсці працу, на якой працаваць не трэба

**Часам малады чалавек дакладна ведае, кім хоча працаваць у будучыні. А што рабіць, калі вы не вызначыліся або нават не задумваліся, чым займацца пасля заканчэння школы? Чарговы этап у жыцці набліжаецца, хутка лета, уступныя экзамены і ЦТ, а за праглядам любімага серыяла прайшоў яшчэ адзін месяц.**

Піша Уладзіслава **РЫНЕЙСКАЯ.**

Бацькі прапаноўваюць годныя, на іх погляд, варыянты – каб у будучым быў добры заробак і прэстыжная прафесія. А вы хочаце маляваць анімацыі, стаць актрысай ці зарабляць капірайтынгам у інтэрнэце.

Вы не толькі няўпэўнены ў будучыні, але і не можаце самастойна зрабіць першы крок, толькі некалі ж трэба пачынаць. Прыслухайцеся да сябе, што захапляе асабіста вас? Яшчэ Канфуцый казаў: «Выберы сабе працу па душы, і табе не прыйдзецца працаваць ніводнага дня ў сваім жыцці». А мы дапаможам вам знайсці прафесію мары.

### Запішыце ўсе свае захапленні

Абсалютна ўсе. Напрыклад, вы любіце дапамагаць людзям, здымаць «сторыс» у інстаграм, чытаць гістарычныя кнігі.

> Сюды можна пісаць любыя хобі, якія кранаюць душу. Нават каліграфію, маляванне па вадзе, мадыфікацыю тэхнікі.

### Супастаўце захапленні з прафесіямі

Напішыце насупраць кожнага з захапленняў варыянты прафесій, якія з імі звязаныя. Іх павінна быць як мага больш, каб быў выбар.

Любіце дапамагаць людзям? Вашы прафесіі – доктар, прадавец-кансультант, сацыяльны работнік, сядзелка, юрыст. Захапляе рабіць пасты для сацсетак? Падыдуць прафесіі фатографа, відэографа, рэжысёра, блогера, журналіста. Гістарычныя кнігі – ваша ўсё? Магчымая праца настаўніка, гісторыка, археолага, бібліятэкара, мастацтвазнаўцы.

Закрэсліце ўсе варыянты, якія не па душы. Пакіньце два-тры прымальныя.

Любіце гісторыю, але не ўмееце працаваць з дзецьмі? Не абірайце працу настаўніка – і сабе нервы не пашкодзіце, і дзяцей ніадбраму не навучыце.

### Прааналізуйце свае прафесійныя якасці

Напрыклад, любіце дапамагаць людзям і пакінулі прафесію доктара. Падумайце, ці адказныя вы? Ці зможаце вывучыць хімію і біялогію? Ці маеце добрую памяць? Калі так, абярыце ВНУ і смела падавайце дакументы.

А можа, вы не гатовыя заўжды насіць аднолькавае адзенне і хочаце хадзіць з доўгімі каляровымі пазногцямі? Грэбліві ці баіцеся крыві? Разглядайце іншую прафесію. Напрыклад, кансультант тэлефона даверу можа мець самую экзатычную знешнасць.

Творчы чалавек звычайна мае большы выбар. Нават у майстра па манікюры ў нейкім сэнсе творчая прафесія: зрабіць прыгожы малюнак для капрызнай кліенткі – сапраўднае мастацтва. Трэба толькі суадносіць творчыя парывы з заробкам і загінулымі нервовымі клеткамі.

### Прааналізуйце заробак

Звычайна доктар у прыватнай клініцы зарабляе больш, чым работнік дзяржустановы. Доктар, які адкрыў свой бізнэс, – яшчэ больш. Глядзіце ў перспектыву, каб потым не былі расчараваныя.

Пасля таго, як абралі ідэальны варыянт, пазнаёмцеся бліжэй з прафесіяй.

Напрыклад, вясной сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы запрашаюць на дні адкрытых дзвярэй, прапаноўваюць «знутры» пазнаёміцца з установай, студэнтамі, адчуць «атмасферу», пабачыць, дзе пройдуць некалькі вашых наступных гадоў. Майце на ўвазе, якасць адукацыі па розных спецыяльнасцях можа адрозніваецца нават у межах адной установы.

Наведайце прадпрыемства, дзе хочаце працаваць. Паглядзіце, як сапраўды працуюць людзі, што робяць, якія вырашаюць задачы. Тут можна даведацца, як будуецца сучасны бізнэс і што цэняць у сваіх супрацоўніках тая ці іншая фірма. І памятайце, адна арганізацыя не дасць вам поўнага ўяўлення пра прафесію. Завітайце ў некалькі з рознай рэпутацыяй, паслугамі, колькасцю работнікаў.

### Што яшчэ дапаможа пры выбары

Абавязкова пагутарыце з прадстаўнікамі абранай прафесіі, экспертамі. Распытайцеся як мага падрабязней пра складанасці, з якімі яны сутыкаліся падчас працы. Прыкіньце на сябе, ці падыходзяць магчымыя праблемы асабіста вам. Ці валодаеце вы тымі якасцямі, якія спатрэбяцца на пэўнай пасадзе.

Калі ёсць магчымасць, наведайце трэнінгі, лекцыі, семінары па прафесіі, якія можна знайсці ў вашым горадзе. Калі няма, паглядзіце відэаролікі на ютубе, пачытайце каментары на форумах, меркаванні блогераў.

У сучасным свеце трэба выкарыстоўваць усе магчымасці. Падпішыцеся ў сацсетках і мэсенджарах на экспертаў і групы па прафесіі. Часта яны раяць класныя кнігі, даюць прапановы, звязаныя з вашай будучай працай.

Калі хочаце адкрыць бізнэс ці з'ехаць у іншую краіну, трэба сумясціць навучанне па прафесіі і адукацыйныя курсы. Вывучайце мовы, больш чытайце. Чым раней пачнеце, чым больш шанцаў у час злавіць «хвалю» і быць «у трэндзе».

І памятайце: ніхто лепш за вас не вырашыць, куды ісці вучыцца. Магчыма, менавіта вашы настойлівасць, мэтанакіраванасць і матывацыя зменяць сусвет. •



# тэлетыдзень

**8-14 красавіка**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**28 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**



## 8 канал

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 8 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.05, 21.05, 0.05** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПОЛНОЧНОЕ СОЛНЦЕ».**
**9.00** Д/с «Родовые проклятья».
**9.45, 19.10** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.40** Х/ф **«ДЖЕК РИЧЕР».**
**12.50, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.35** Х/ф **«ЛЮДИ Х».**
**16.30** Д/ф «СИБИРЬ».
**17.25** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ИНТЕРСТЕЛЛАР».**

**ВТОРНИК, 9 АПРЕЛЯ**

**7.00, 16.00, 18.30, 21.05, 0.45** «Погода».
**7.05, 16.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.05** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ИЗЛОМ ВРЕМЕНИ».**
**9.10** Д/с «Дорога в школу».
**9.40, 18.35** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00** Х/ф **«ИНТЕРСТЕЛЛАР».**
**13.50** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**14.35** Х/ф **«8 НОВЫХ СВИДАНИЙ».**
**16.45** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.25** «Вечерний квартал-95».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ГЛАВНЫЙ».**
**23.00** Х/ф **«СТРЕКОЗА».**

**СРЕДА, 10 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.05, 0.35** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«АВТОСТОПОМ ПО ГАЛАКТИКЕ».**
**9.15** «Документальный экран».
**9.40** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Синьцзян».
**11.00** «Вечерний квартал-95».
**12.30** Д/с «Ген высоты».
**13.30** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**15.35** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**16.30** Д/ф «КАВКАЗ».
**17.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.15** Т/с **«МАРЧЕЛЛА».**
**20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЕРВЫЙ В КОСМОСЕ».**
**23.00** Х/ф **«НАВСТРЕЧУ ШТОРМУ».**

**ЧЕТВЕРГ, 11 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.00, 0.55** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**9.05, 15.20** Д/с «Путешественник».
**9.40, 19.15** Т/с **«МАРЧЕЛЛА».**
**10.30** «Документальный экран».
**11.00** Х/ф **«ПЕРВЫЙ В КОСМОСЕ».**
**13.00, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.45** Х/ф **«НАВСТРЕЧУ ШТОРМУ».**
**16.30** «Мой любимый питомец».
**17.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.00** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«БРЕМЯ ПЕРВЫХ».**
**23.25** Х/ф **«ГРАВИТАЦИЯ».**

**ПЯТНИЦА, 12 АПРЕЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.10, 21.05, 0.40** «Погода».
**7.05, 16.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ГРАВИТАЦИЯ».**
**9.00** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**9.40, 19.15** Т/с **«МАРЧЕЛЛА».**
**10.25** Х/ф **«БРЕМЯ ПЕРВЫХ».**
**12.45, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.30** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ».**
**16.30** «Синьцзян».
**17.00** «Мой любимый питомец».
**17.25** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.50** Х/ф **«ЦЕПНАЯ РЕАКЦИЯ».**

**СУББОТА, 13 АПРЕЛЯ**

**7.00, 19.05, 21.15, 1.10** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета земля».
**8.05** Мультфильмы «Долина папоротников».
**9.20** «Утрямдия».
**9.25** Х/ф **«ЦЕПНАЯ РЕАКЦИЯ».**
**11.15** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**12.45** Х/ф **«УКРОЩЕНИЕ ОГНЯ».**
**15.30** «Отвечайка».
**15.35** «Смотрим всей семьей»: «Союз зверей».
**17.05** Х/ф **«ПЕРВЫЙ В КОСМОСЕ».**
**18.55** «Друзья дедушки Марко».
**19.10** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«МИССИЯ НА ЛУНЕ».**
**23.35** Х/ф **«ВО ВЛАСТИ СТИХИИ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 14 АПРЕЛЯ**

**7.00, 16.10, 18.55, 21.05, 1.15** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета».
**8.15** Мультфильмы.
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Синьцзян».
**10.30** «Вечерний квартал-95».
**12.15** Х/ф **«8 ПЕРВЫХ СВИДАНИЙ».**
**13.45** Х/ф **«ТРАНСФОРМЕРЫ».**
**16.15** «Смотрим всей семьей»: «Белль и Себастьян».
**17.45** «Отвечайка».
**17.50** «Друзья дедушки Марко».
**18.10** Т/с **«КАСЛ».**
**19.00** Х/ф **«ВАМ ПИСЬМО».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СТАНЦИЯ «САЛЮТ».**
**23.10** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 8 АПРЕЛЯ**

**6.30** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ».**
**8.15, 13.50, 22.20** Мажорный лад.
**10.00** Х/ф **«2+1».**
**12.00** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**15.00** Х/ф **«БАРХАТНЫЙ РУЧКИ».**
**16.50** Молодечно – город, дружественный детям.
**17.05** Театральная гостиная: «Гамлет» в постановке А.Барткевича.
**18.00** Новости БЖД.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Всё обо всём.
**19.20** Телеочерк: Золотой фонд края.
**20.15** Мнения и факты: Деятельность межрайонного отдела Управления Департамента финансовых расследований.
**20.25** Рядом со звездами: Павел Булатников.

**ВТОРНИК, 9 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25** Театральная гостиная: «Вишневый сад» в постановке А.Барткевича.
**11.00, 17.05, 22.20** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**13.45** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ».**
**15.30** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**19.15** Все обо всём.
**20.15** Театральная гостиная: «Васса» в постановке А.Барткевича.

**СРЕДА, 10 АПРЕЛЯ**

**6.30, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.00, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**7.45** Всё обо всём.
**7.50** Таланты края.
**10.00** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**11.35** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**13.15** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**14.40, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**18.10** Рядом со звездами: Павел Булатников.
**20.15** Молодечно – город, дружественный детям.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 11 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.15, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«БАРХАТНЫЙ РУЧКИ».**
**11.50** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**13.25** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**15.05** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА».**
**17.05** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**19.15, 22.20** Мажорный лад.
**20.20** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**

**ПЯТНИЦА, 12 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**8.20** Мая Радзіма.
**10.00** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**12.10** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**14.10** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**
**16.15** Будьте здоровы.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Всё обо всём.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.30** Мажорный лад.

**СУББОТА, 13 АПРЕЛЯ**

**6.30, 7.40, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 19.30** Таланты края.
**7.35, 19.35** Всё обо всём.
**9.40** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**11.00** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**12.50** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**14.50, 21.10** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.40** Мая Радзіма.
**20.30** Желаем вам.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 14 АПРЕЛЯ**

**6.30** Х/ф **«2+1».**
**8.30** Мажорный лад.
**9.00** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**10.45** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**13.35** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**15.35** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**
**17.40** Х/ф **«50 ПЕРВЫХ ПОЦЕЛУЕВ».**
**19.40** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА».**
**21.40** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**

## Беларусь 1

**6.25** «Існасць».
**6.55, 21.45** Х/ф **«ЗАБЫТАЯ ЖЕНЩИНА».**
**8.25** «Кулинарная дипломатия».
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Маршрут построен». Мир.
**9.50** «Здоровье».
**10.45** «Дача» [СТ].
**11.20, 12.10** Х/ф **«БУМАЖНЫЕ ЦВЕТЫ».**
**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.15** «Краіна».
**15.45** Х/ф **«ОПАСНЫЕ СВЯЗИ».**
**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.
**21.00** «Панорама».
**1.00** Т/с **«СВАТЫ 4».**
**1.55** «День спорта».

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**
**8.35, 21.55** «Телебарометр».
**8.40** Х/ф **«УТИНЫЕ ИСТОРИИ: ЗАВЕТНАЯ ЛАМПА».**
**9.50** «Верю не верю». Трэвел-шоу.
**10.40** «Кто я?».
**11.05** «Копейка в копейку».
**11.40** «Камень, ножницы, бумага».
**12.15** «Муж напрокат». Реалити-шоу.
**13.15** «Близнецы». Бьюти-шоу.
**14.10** «Когда мы дома 2». Скетчком.
**14.40** Х/ф **«ГОЛЫЙ ПИСТОЛЕТ 33 1/3: ПОСЛЕДНИЙ ВЫПАД».**
**16.05** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.50** «До свидания». Реалити-шоу.
**18.35** Фильм-фэнтези «Малефисента».
**20.10** Х/ф **«СУПЕР 8».**
**22.00** КЕНО.
**22.05** Х/ф **«ЧУДО».**

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».
**8.00, 15.15, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 15.30, 20.30** «Гэты дзень».
**8.25** Мультфільмы.
**8.45** «Трывога». Мастацкі фільм.
**10.00** «Жывая культура». Побытавы танец «Полька спораўская» вёскі Спорава Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці.
**10.30** «Беларуская кухня». Аўсяны кісель.
**10.55** «Спявае Беларусь». Фальклорнае песеннае шоу.
**11.45** «МУР». Шматсерыйны мастацкі фільм. Частка другая «1942».
**14.45** «Навукаманія».
**15.35** «Тры непагодлівыя дні». Мастацкі фільм.
**16.50** «Юрый Якаўлеў. Апошні з магікан». Дакументальны фільм.
**17.45** «Артэфакты». Пояс Вітаўта [СТ].
**18.10** «Крэпасць на колах». Мастацкі фільм [СТ].
**19.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Анатоль Бутэвіч.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Каралева бензакалонкі». Мастацкі фільм.
**22.20** «Вялікія мастакі». Леанарда да Вінчы.
**23.15** Аксана Волкава. Solo.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.10** «Играй, гармонь любимая!».
**8.00** «Малая родина высоких орбит».
**9.10** Премьера ОНТ: «Хит на завтрак».
**9.50** «Алла Пугачёва. «А знаешь, все еще будет…».
**10.50** «Алла Пугачёва. И это все о ней…».
**16.20** «Алла Пугачёва. Избранное».
**18.00** Премьера. «Максим Галкин. Моя жена – Алла Пугачёва».
**19.00** «Сегодня вечером».
**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** «Удача в придачу!». Дневник.
**21.10** «Сегодня вечером». Продолжение.
**23.10** Т/с **«ШТРАФНИК».**

## СТВ

**6.10** «Пища богов».
**7.50** «Анфас».
**8.10** «Самая полезная программа».
**9.00** СТВ представляет: «Тайны Беларуси».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.35** «Центральный регион».
**11.05, 13.45, 16.45, 20.05** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА 2».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**19.55** «СТВ-спорт».
**23.25** Документальный проект.

## Мир

**6.00, 8.00, 5.25** Мультфильмы.
**6.15** «Миллион вопросов о природе».
**6.30** «Союзники».
**7.05** «Такие разные».
**7.35** «Секретные материалы».
**9.00** «Ой, мамочки!».
**9.25, 3.30** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.15** «Как в ресторане».
**10.45, 22.30** Х/ф **«СТАРИКИ-РАЗБОЙНИКИ».**
**12.45, 16.15, 19.15** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ».**
**0.30** Х/ф **«ПАПА».**
**3.55** Х/ф **«ВЕСЕЛЫЕ РЕБЯТА».**

## НТВ-Беларусь

**5.50** «Астропрогноз».
**5.55** «Terra incognita. Беларусь неизвестная».
**6.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.00** «Ты не поверишь!».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by».
**8.50** «Врачебные тайны плюс».
**9.20** «Истории спасения».
**10.25** «Главная дорога».
**11.05** «Еда живая и мёртвая».
**12.05** «Квартирный вопрос».
**13.10** «Поедем, поедим!».
**14.05** Х/ф **«ДОКТОР СМЕРТЬ».**
**16.30** «Экспертиза преступлений».
**17.10** «Секрет на миллион». Маргарита Симоньян.
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**20.20** «Ты супер!». Суперсезон.
**22.30** Х/ф **«АНТИСНАЙПЕР. ВЫСТРЕЛ ИЗ ПРОШЛОГО».**
**0.10** «Брэйн ринг».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**6.55** Начало эфира.
**7.00** «Утро Беларуси».
**10.00** «Сто к одному».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Пятеро на одного».
**12.10** Х/ф **«ШКОЛЬНЫЙ ВАЛЬС».**
**14.00** «Наше дело».
**14.15** Х/ф **«НЕЛЕГКОЕ СЧАСТЬЕ».**
**16.10** Х/ф **«ВЕТЕР В ЛИЦО».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.45** Х/ф **«БОЛЬ ЧУЖОЙ ПОТЕРИ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 13.45** Реальная любовь. **8.50** К-19. **11.35** Побочный эффект. **16.25** 13-й район. **18.10** Машина времени. **20.10** Дьявол и Дэниэл Уэбстер. **22.10** Мой парень – псих. **0.30** Борг/Макинрой. **2.45** Резня. **4.20** Интуиция.

### TV1000 ACTION

**7.00** Связь. **9.35** Овердрайв. **11.25** Взрыв. **13.20** Дум. **15.20** Эксперимент «Офис». **17.05** Мишель Вальян: Жажда скорости. **19.05** Дуэль. **21.10** Телохранитель киллера. **23.25** Наёмник. **1.35** Саботаж. **3.35** Эверли. **5.10** Заложница 2.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Мальчики + девочки =. **8.05** Время Первых. **10.45** Добрыня Никитич и Змей Горыныч. **12.05** Барханов и его телохранитель. **14.30** Невеста. **16.20** Билет на Vegas. **18.10** Призрак. **20.20** Чемпионы. **22.20** Убежать, догнать, влюбиться. **0.10** Чёрная вода. **2.35** Неуловимые: Джекпот. **4.20** Любовь-морковь 2.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.45, 10.30, 11.30, 12.30** Т/с **«ГРИММ». 13.30** Х/ф **«ВИЙ». 16.30** Х/ф **«МУМИЯ ВОЗВРАЩАЕТСЯ». 19.00** «Последний герой». **20.15** Х/ф **«ПАРФЮМЕР: ИСТОРИЯ ОДНОГО УБИЙЦЫ». 23.15** Х/ф **«БЕЛОСНЕЖКА: СТРАШНАЯ СКАЗКА». 1.15** Х/ф **«28 НЕДЕЛЬ СПУСТЯ». 3.00, 4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 13.00** Т/с **«ЗВЕЗДА ЭПОХИ». 14.00, 15.00** Т/с **«СЕМЬ ЖЕН ОДНОГО ХОЛОСТЯКА». 20.00, 21.00** Т/с **«ГАЛИНА». 22.00, 23.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 4.00, 5.00** Т/с **«ЖУКОВ». 6.00, 7.00** Т/с **«ОЛЯ + КОЛЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.20** Х/ф **«ПРИТВОРИСЬ МОИМ МУЖЕМ». 2.15** Х/ф **«1+1». 4.25** Х/ф **«50 ПЕРВЫХ ПОЦЕЛУЕВ». 6.20** Х/ф **«ОТЛИЧНИЦА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ». 8.05** Х/ф **«ЛЮБОВНЫЙ ЭЛИКСИР №9». 9.55** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 11.55** Х/ф **«МОШЕННИКИ». 13.50** Х/ф **«2+1». 16.00** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ». 18.05** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА». 20.20** Х/ф **«СВАДЬБА ЛУЧШЕГО ДРУГА». 22.15** Х/ф **«ДОЧЬ МОЕГО БОССА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.45, 1.45, 2.55, 4.00, 5.00, 6.00, 7.05, 8.05** Неуловимые. **9.05, 10.05** Барс и Лялька. **11.05, 12.05, 13.00, 14.00** Прощай, любимая. **15.00, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55** Гетеры майора Соколова. **22.55** Ложь во спасение.

### ВТВ

**6.05, 4.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **6.35, 5.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.25, 3.25** Скетч-шоу «6 КАДРОВ». **8.20, 2.35** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.15** Мультфильмы «МАРИН И ЕГО ДРУЗЬЯ». **9.45** Мультфильмы «МАША И МЕДВЕДЬ». **10.05** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **10.30** Т/с **«ЕРАЛАШ». 11.00** Х/ф **«СМУРФИКИ: ЗАТЕРЯННАЯ ДЕРЕВНЯ». 12.40** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **13.40** Т/с **«ПОСЛЕДНИЙ ИЗ МАГИКЯН». 15.40, 16.45, 21.35, 23.10, 0.55** Прогноз погоды на неделю. **15.45** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **16.50** Х/ф **«5-Я ВОЛНА». 19.10** Х/ф **«ПРАВИЛА СЪЕМА: МЕТОД ХИТЧА». 21.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.15** Ужасы «ВАКАНСИЯ НА ЖЕРТВУ». **1.00** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым.

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.30, 9.40, 18.20** Борьба. Чемпионат Европы. Бухарест. **8.00, 11.00, 21.00** Тяжелая атлетика. Чемпионат Европы. Батуми. **12.35** Футбол. Лига чемпионов. **13.05** Тренировочный день. **13.35** Большой спорт. **14.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Торпедо-БелАЗ – Минск. **16.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Гомель – РЦОР-БГУ. В перерыве – Спорт-центр. **22.35** Хоккей. КХЛ. Финал.

### EUROSPORT

**0.30, 2.30, 6.00, 9.30** Велоспорт. «Тур Страны Басков». 5-й этап. **1.30, 5.00, 8.30** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Грузия. Мужчины. До 96 кг. **4.00, 7.30** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Грузия. Женщины. До 87 кг. **11.00** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Грузия. Мужчины. До 109 кг. **12.45, 16.00** Watts. **13.00, 16.15** Автогонки. Формула Е. Рим. Квалификация. **14.00** Автогонки. WTCR. Марракеш. Обзор. **14.30** Супербайк. Этап чемпионата мира. Ассен. Суперпоул. **15.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Ассен. Первая гонка. **16.45** Автогонки. Формула Е. Рим. Интро. **17.00, 21.30** Автогонки. Формула Е. Рим. Гонка. **18.15** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Грузия. Женщины. Свыше 87 кг. **19.00** Плавание. Nordic Swim Tour. Стокгольм. Второй день. **20.30** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Грузия. Мужчины. Свыше 109 кг. **22.00** Велоспорт. «Тур Страны Басков». 6-й этап. **23.30** Конный спорт. Global Champions Tour. Мексика.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 9.10, 12.00, 15.00, 17.55, 22.25, 0.20, 3.25** Итоговые новости. **6.15** Экстрим 4х4. **6.55** Стальные парни. **8.30** Советы юриста. **9.30, 0.30** Тест на «Драйве». **9.55, 1.55** Работяги. **10.30** Комплектация. **11.05, 12.15** Автомобильные дороги России. **13.40, 15.10** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **16.05** Поездка выходного дня. **18.10** Автостоп. **19.40, 22.40** Металломщики. Сезон 4. **20.25, 23.25** Мотогараж. **20.55, 23.50, 4.20** Проверка на дороге. **21.25, 4.50** Пусть меня научат. **21.55, 5.20** Сделано в России. **1.00** Сравнительный тест. **1.30** Вторичка. **1.40** Тайный покупатель. **2.30** Это Родина твоя. **2.55** Сити-тестер. **3.35** Металломщики. Сезон 3. **5.45** Эконом-тест.

### EXPLORE

**6.00, 6.50** Автошоу GRIP. **7.40, 8.30, 9.20, 15.10** Пятая передача. **10.10, 11.00, 11.50, 12.40, 13.30, 14.20** Переделка старья. **16.05** Самые опасные дороги мира. **17.05, 18.00** Строительство гигантов. **18.50** Австралийские золотоискатели. **19.45, 20.35** Чудовищный карп. **21.25** Надсмотрщик. **22.15** Бойня. **23.05, 0.10, 1.10** Достать коротышку. **2.10** Хамелеон: добро пожаловать в ад. **3.10, 4.00** Выживание в лесу. **4.55** Танковый биатлон.

### HISTORY

**6.05, 1.50** Запретная история. **7.00, 7.30, 17.10, 17.40, 4.20, 4.49, 5.20, 5.50** Невероятные изобретения. **8.00, 8.25, 8.55, 9.20** Родовые проклятья. **9.50, 10.40, 11.30** Мир Гитлера: послевоенные планы. **12.20, 13.20, 14.20, 15.15, 16.10, 0.50** Вторая мировая в цвете. **18.10** Взрывная Земля. **19.05** Тайная война. **20.00** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **21.10** Восемь дней, которые создали Рим. **22.00** Владыки Тихоокеанского побережья. **23.05** История оружия. **0.00** Боевые корабли. **2.40, 3.30** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00, 6.55** Свирепые животные. **7.50, 8.25, 9.00, 9.35, 10.10** Самые смертоносные. **10.45, 11.35, 12.25, 13.15, 14.05, 14.55, 15.45, 16.30, 17.20, 18.10** Дикие штучки с Домиником Монаганом. **19.00, 19.30, 20.00** Лучшие друзья собаки. **20.30** Не вините собаку. **21.30, 22.25** Шокирующая природа. **23.20, 23.50, 0.20, 0.50** Животные инстинкты с Крисом Хамфри. **1.20, 1.55** Зоосад Криса Хамфри. **2.30, 3.25, 4.20, 5.10** Жуткие, настоящие и странные.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Зона строительства. **6.25** Невероятные машины. **7.15, 8.00, 4.25, 5.10** Машины: разобрать и продать. **8.50, 9.35, 10.25** Шоссе через ад. **11.10, 11.55** Неизвестный Китай. **12.45** Космический шаттл: триумф и трагедия. **14.15** Билли Кид: новые улики. **15.00, 15.25, 15.50, 16.10, 21.15, 21.40** Горячие границы: Латинская Америка. **16.35, 17.25** Апокалипсис: Вторая мировая война. **18.15, 19.00, 22.05** Суперсооружения Третьего рейха: к бою готовы. **19.45, 20.30, 2.45, 3.35** Расследования авиакатастроф. **22.50, 23.35** Великие рейды Второй мировой войны. **0.20, 1.10** Поймать контрабандиста: Аэропорт Кеннеди. **2.00** Служба безопасности аэропорта: Колумбия.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.40** Территория льда. **6.30, 23.15** Такая жизнь охота с Сергеем Бешенцевым. **6.55, 0.15** Бристольский залив. **7.45, 1.05** Охотничьи традиции и этика. **8.00, 19.40** Рыбалка-шоу ТВ. **8.30, 20.10** Охотник-одиночка. **9.00** Горная охота в Болгарии. **9.25** На рыбалку с охотой. **10.00, 21.40** Рыбалка сегодня. **10.15, 22.00** Подводная охота. **10.45, 22.25** Первый лед последний лед. **11.00, 17.35, 1.15, 5.05** Трофеи. **11.35, 19.10, 1.45, 5.30** Водный мир. **12.05** Рыбалка в Шотландии. **13.05** Две на одного. Оружие. **13.25** Егерский кордон. **13.55** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь. **14.25** Рыбалка 360. **14.55, 2.10** Рыболовы. **15.35, 3.05** Горная охота на камчатского барана. **16.05, 21.10, 3.30** Фишермания. **16.35, 4.10** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **17.05, 4.40** Охота в Беларуси. **18.05** Охота на серну в Каталонии. **20.40** Горная охота на средне-кавказского и кубанского тура. **23.45** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **2.35** Нахлыст. **4.00** Кухня с Сержем Марковичем.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 13.55, 18.00, 21.55, 1.50** Инспекция Холмса. **6.55, 14.50, 18.45, 22.50, 2.50** Варенье. **7.05, 15.10, 19.05, 23.05, 3.05** Семейный обед. **7.40, 11.35, 15.40, 19.35, 23.40, 3.35** Хозяин. **8.10, 12.05, 16.10, 20.05, 0.10, 4.20** 10 самых больших ошибок. **8.40, 12.35, 0.40, 4.50** Детская мастерская. **8.55, 12.55, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Искатели приключений. **9.30, 13.25, 17.30, 1.25, 5.35** Как поживаете? **10.45** Паштеты. Спецвыпуск. **11.05** Дизайн своими руками. **16.40** Доктор Смузи. Спецвыпуск. **20.35** Забытые ремесла. **21.25** Умный дом. Новейшие технологии. **2.35** Наш румяный каравай. **4.00** Букварь дачника.

## SETANTA SPORTS

### ПОНЕДЕЛЬНИК

**1.00** Бокс. Обзор. **2.00** Хоккей. НХЛ. «Рейнджерс» – «Коламбус». **4.00** Бессмертные. Али / Пакьяо / ШугарРэй. **4.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Интер» – «Аталанта». **6.15, 23.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Удинезе» – «Эмполи». **8.00** Футбол. Чемпионат Испании. «Вальядолид» – «Севилья». **9.45, 23.00** «Сетанта Спорт». **10.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Сампдория» – «Рома». **11.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Ювентус» – «Милан». **13.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Мадрид» – «Эйбар». **15.15** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **16.15** Хоккей. НХЛ. «Монреаль» – «Торонто». **18.15** Футбол. Чемпионат Испании. «Барселона» – «Атлетико». **20.00** Д/ф. **20.25** Футбол. Чемпионат Италии. «Болонья» – «Кьево». **22.30** Дрим Тим. Кубок Дэвиса / Кубок Чехии.

### ВТОРНИК

**1.00** Бокс. Обзор. **2.00** Хоккей. НХЛ. «Монреаль» – «Торонто». **3.00** Дрим Тим. Чемпионат Германии / Бывшая Югославия. **4.30, 11.15, 19.00** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **5.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Хетафе» – «Атлетик». **7.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Парма» – «Торино». **9.00** Бессмертные. Бэкхем / Пирло / Лам / Роббен. **9.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Фиорентина» – «Фрозиноне». **12.15, 22.45** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **12.45, 20.00** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **13.45** Футбол. Чемпионат Испании. «Барселона» – «Атлетико». **15.30** Д/ф. **16.00** Хоккей. НХЛ. «Рейнджерс» – «Коламбус». **18.00** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **21.00** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Мадрид» – «Эйбар». **23.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Болонья» – «Кьево».

### СРЕДА

**1.00, 14.15, 23.30** Бокс. Обзор. **2.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Удинезе» – «Эмполи». **3.45, 15.45** Д/ф. **4.15, 8.30, 21.00** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **4.45, 22.30** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **5.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Ювентус» – «Милан». **7.30** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **9.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Наполи» – «Дженоа». **10.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Интер» – «Аталанта». **12.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Хетафе» – «Атлетик». **15.15** Бессмертные. Ринер / Гловер / Шуртер / Ки Бо Бэ. **16.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Сампдория» – «Рома». **18.00** Футбол. Чемпионат Шотландии.Обзор. **18.30** Бессмертные. Хави / Ибрагимович / Кейн. **19.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Парма» – «Торино». **19.45** «Сетанта Спорт». **21.30** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор.

### ЧЕТВЕРГ

**0.30** Бессмертные. Леброн / Джордан / Джонсон. **1.00, 7.00, 8.00, 15.45, 20.00** Бокс. Обзор. **2.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Фиорентина» – «Фрозиноне». **3.45** Бессмертные. Ринер / Гловер / Шуртер / Ки Бо Бэ. **4.15** Футбол. Чемпионат Италии.Обзор. **5.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Болонья» – «Кьево». **8.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Барселона» – «Атлетико». **10.15** Футбол. Чемпионат Франции. «Бордо» – «Марсель». **12.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Удинезе» – «Эмполи». **13.45, 19.00** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **14.45** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **15.15** Д/ф. **16.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Ювентус» – «Милан». **18.00** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **20.30** Бессмертные. Микельсон / Фолдо / Бальестерос. **21.00** Гольф. Мастерс (Огаста, США).

## Беларусь 1

**6.35** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на праздник Входа Господня в Иерусалим (Вербное воскресенье).
**6.45** Х/ф **«ЗАБЫТАЯ ЖЕНЩИНА».**
**8.20** «Клуб редакторов».
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.45, 12.35** Т/с **«СВАТЫ 4».**
**10.45** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.
**11.35** «Игры.by».
**12.10** Новости. Центральный регион.
**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.15** «Твой город».
**15.30** «Вокруг планеты».
**16.20** Eurovision. Итоги недели.
**16.40** Х/ф **«УРОКИ СЧАСТЬЯ».**
**20.40** Навіны надвор'я.
**21.00** «Главный эфир».
**22.10** Х/ф **«ОПАСНЫЕ СВЯЗИ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**
**8.40, 19.50** «Телебарометр».
**8.45** М/с «Машины сказки».
**9.10** Т/с **«ЧИП И ДЕЙЛ СПЕШАТ НА ПОМОЩЬ».**
**9.55** «Мир наизнанку. Непал». Трэвел-шоу.
**10.40** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.
**11.40** Фильм-фэнтези «Малефисента».
**13.20** Х/ф **«ЧУДО».**
**15.10, 23.40** «Орел и Решка. Рай и ад». Трэвел-шоу.
**16.05** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.45** «Битва экстрасенсов. 17-й сезон». Реалити-шоу.
**20.25** «Обмен женами». Реалити-шоу.
**22.00** КЕНО.
**22.05** «Верните мне красоту». Медицинское реалити-шоу.
**23.05** «Сыграй меня, если сможешь».

## Беларусь 3

**7.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**8.00, 13.10, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 13.25, 20.30** «Гэты дзень».
**8.25** Мультфільм.
**8.45** «Каралева бензакалонкі». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.30** «Беларуская кухня». Шамшурыкі.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.45** «Крэпасць на колах». Мастацкі фільм [СТ].
**13.30** Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2016». Канцэрт «Белая Русь ты мая».
**14.50** «Трывога». Мастацкі фільм.
**16.10** «Жывая культура». Традыцыйная тэхналогія ткацтва падвойных дываноў (вёска Гудзевічы, Мастоўскі раён, Гродзенская вобласць).
**16.35** «МУР». Шматсерыйны мастацкі фільм. Частка другая «1942».
**19.35** «Арт-гісторыі». «Евангельскі подзвіг».
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Тры непагодлівыя дні». Мастацкі фільм.
**22.15** «Юрый Якаўлеў. Апошні з магікан». Дакументальны фільм.
**23.10** «Залаты шлягер-2017». «Музыка і вечнасць». Канцэрт аркестра баяністаў імя П.І.Смірнова.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.10** Мультфильмы «Маша и Медведь».
**7.40** Премьера. Жанна Бадоева в новом проекте-путешествии «Жизнь других».
**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** «Здоровье».
**10.35** «Теория заговора».
**11.30** «Подарок для Аллы».
**14.30** «Главная роль».
**16.20** Премьера. «Ледниковый период. Дети». Новый сезон.
**18.45** «Подарок для Аллы». Большой концерт к юбилею Аллы Пугачёвой.
**20.00** «Контуры».
**21.05** «Подарок для Аллы». Большой концерт к юбилею Аллы Пугачёвой. Продолжение.
**22.15** «Что? Где? Когда?». Весенняя серия игр.
**23.25** Т/с **«ШТРАФНИК».**

## СТВ

**6.30, 0.10** Х/ф **«МОЙ ЛАСКОВЫЙ И НЕЖНЫЙ ЗВЕРЬ».**
**8.20** Документальный проект.
**9.15** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00** «Дальние родственники».
**11.20, 13.40, 16.40** Т/с **«УБИТЬ СТАЛИНА».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**20.35** Документальный спецпроект.
**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** «Анекдот Шоу с Вадимом Галыгиным».

## Мир

**6.00, 6.30, 7.35, 8.35** Мультфильмы.
**6.15** «Миллион вопросов о природе».
**7.05** «Беларусь сегодня».
**8.05** «Культ/туризм».
**8.55** «Еще дешевле».
**9.25** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** «Мировые леди». Премьера!
**10.45** «Любовь без границ». Премьера!
**11.45, 16.15, 19.30, 1.00, 5.35** Т/с **«ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**3.40** Х/ф **«СЕЛЬСКАЯ УЧИТЕЛЬНИЦА».**

## НТВ-Беларусь

**5.50** «Астропрогноз».
**5.55** «Terra incognita. Беларусь неизвестная».
**6.30, 22.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.00, 21.25** «Ты не поверишь!».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «Специальный репортаж».
**8.40** «Однажды...».
**9.15** «Кто в доме хозяин?».
**10.25** «Первая передача».
**11.05** «Чудо техники».
**11.55** «Дачный ответ».
**13.00** «НашПотребНадзор».
**14.05** Х/ф **«ДОКТОР СМЕРТЬ».**
**16.20** «Следствие вели…».
**17.15** Х/ф **«КРУТОЙ».**
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** «Звезды сошлись».
**23.00** «Прямая линия общения Аллы Пугачёвой и Максима Галкина с народом».

## Беларусь РТР

**6.55** Начало эфира.
**7.00** Х/ф **«ИЗ ЖИЗНИ НАЧАЛЬНИКА УГОЛОВНОГО РОЗЫСКА».**
**8.40** Х/ф **«ПОРТРЕТ ЖЕНЩИНЫ В КРАСНОМ».**
**10.30** «Смехопанорама».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Сам себе режиссер».
**12.10** «Утренняя почта».
**12.50** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**13.45** Х/ф **«ВОСКРЕСНЫЙ ПАПА».**
**15.20** Х/ф **«БЛЮЗ ДЛЯ СЕНТЯБРЯ».**
**17.10** ПРЕМЬЕРА. «Откровения мужчин Примадонны».
**18.10, 21.45** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».
**1.15** ПРЕМЬЕРА. «Действующие лица с Наилей Аскер-заде».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 15.20** Бэтмен: Начало. **9.00** Мой парень – псих. **11.30** Дьявол и Дэниэл Уэбстер. **13.35** Резня. **18.10** Интуиция. **20.10** Библиотекарь: В поисках копья судьбы. **22.05** Бандиты. **0.30** Немыслимое. **2.25** Мобильник. **4.10** Прости, хочу на тебе жениться.

### TV1000 ACTION

**7.00** Телохранитель киллера. **9.15** Дуэль. **11.20** Наёмник. **13.25** Эверли. **15.15** Саботаж. **17.25** Заложница 2. **19.15** Его собачье дело. **21.10** Уцелевшая. **23.15** Кодекс вора. **1.25** Проклятие 2. **3.20** Охотники за головами. **5.10** Ворон.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Убежать, догнать, влюбиться. **8.10** Чемпионы. **10.15** Чёрная вода. **12.30** Узник замка Иф. Аббат Фариа. **14.00, 15.15, 16.15, 17.15** Оттепель. **18.25** Любовь-морковь 2. **20.20** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее. **22.25** Грецкий орешек. **0.15** Царь. **2.30** Четыре таксиста и собака 2. **4.45** Девушка с косой.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **9.30** «Новый день». **10.00, 11.00, 11.45, 12.45, 13.30** Т/с **«ПОМНИТЬ ВСЕ». 14.30** Х/ф **«БЕЛФЕГОР – ПРИЗРАК ЛУВРА». 16.30** Х/ф **«КРАСАВИЦА И ЧУДОВИЩЕ». 18.45** Х/ф **«ВРЕМЯ ВЕДЬМ». 20.30** Х/ф **«МУМИЯ ВОЗВРАЩАЕТСЯ». 23.00** «Последний герой». **0.15** Х/ф **«ВИЙ». 3.15** Х/ф **«БЕЛОСНЕЖКА: СТРАШНАЯ СКАЗКА». 5.00** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 13.00** Т/с **«ОПЕРАЦИЯ ГОРГОНА». 14.00, 15.00** Т/с **«СЕМЬ ЖЕН ОДНОГО ХОЛОСТЯКА». 20.00, 21.00** Т/с **«ГАЛИНА». 22.00, 23.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 4.00, 5.00** Т/с **«ЖУКОВ». 6.00, 7.00** Т/с **«ЧУДЕС НЕ БЫВАЕТ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.00** Х/ф **«БАНДИТКИ». 1.40** Х/ф **«НАША RUSSIA. ЯЙЦА СУДЬБЫ». 3.15** Х/ф **«ИЗ 13 В 30». 5.00** Х/ф **«ПРИТВОРИСЬ МОИМ МУЖЕМ». 6.55** Х/ф **«ВЕЗУЧИЙ СЛУЧАЙ». 8.45** Х/ф **«ДЕНЬ ВЫБОРОВ ПО-ФРАНЦУЗСКИ». 10.30** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ». 12.10** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ 2». 13.45** Х/ф **«1+1». 16.00** Х/ф **«ВИД СВЕРХУ ЛУЧШЕ». 17.40** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 19.30** Х/ф **«НУ, ЗДРАВСТВУЙ, ОКСАНА СОКОЛОВА!». 21.30** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ». 23.05** Х/ф **«ВЫШИБАЛА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 0.45, 1.40** Ложь во спасение. **2.35, 3.35, 4.35, 5.35, 6.35, 7.35, 8.35, 9.35** Чужая дочь. **10.40, 11.50, 12.50, 13.50** Прощай, любимая. **15.00, 16.00, 17.05, 18.05, 19.05, 20.05** Лютер. **21.10, 22.05, 23.00** Зверь.

### ВТВ

**6.00, 7.20, 8.15, 9.10, 10.35, 12.15, 12.55, 13.55, 15.20, 17.10, 23.10** Прогноз погоды на неделю. **6.05, 4.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **6.50, 5.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.25, 3.05** Скетч-шоу «6 КАДРОВ». **8.20, 2.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.15** Мультфильмы «МАРИН И ЕГО ДРУЗЬЯ». **9.45** Мультфильмы «МАША И МЕДВЕДЬ». **10.05, 19.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **10.40** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **11.30** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00, 23.15** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **15.25** Х/ф **«ХЭНКОК». 17.15** Х/ф **«ДОЗОР ДЖУНГЛЕЙ». 20.40** Х/ф **«ВЕЛИКИЙ УРАВНИТЕЛЬ». 0.40** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым.

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.40** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Юнайтед – Вест Хэм. **8.25** Хоккей. КХЛ. Финал. **10.20** Тяжелая атлетика. Чемпионат Европы. Батуми. **11.50** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Финал. Теннис. WTA. Лугано. Финал. **14.20** Пит-стоп. **14.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. БАТЭ – Динамо-Брест. **16.50** Гандбол. Квалификация ЧЕ-2020. Мужчины. Беларусь – Чехия. В перерыве – Спорт-центр. **18.30** Футбол. Чемпионат Англии. Ливерпуль – Челси. В перерыве – Спорт-центр. **20.30** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Динамо-Минск – Городея. В перерыве – Спорт-центр. **22.25** Художественная гимнастика. Кубок мира. София. **0.35** Итоги недели.

### EUROSPORT

**1.30, 7.30** Плавание. Nordic Swim Tour. Стокгольм. Второй день. **2.30, 6.00** Велоспорт. «Тур Страны Басков». 6-й этап. **4.00** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Грузия. Мужчины. До 109 кг. **5.00** Тяжёлая атлетика. Чемпионат Европы. Грузия. Женщины. Свыше 87 кг. **9.00** Лёгкая атлетика. Марафон. Париж. **12.00, 22.00** Велоспорт. Париж – Рубэ. **18.30, 21.30** Супербайк. Этап чемпионата мира. Ассен. Вторая гонка. **19.00** Плавание. Nordic Swim Tour. Стокгольм. Третий день. **20.35** Автогонки. Формула Е. Рим. Гонка. **21.00, 23.30** Суперспорт. Этап чемпионата мира. Ассен.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 22.15** Дома на колесах. **6.20** Советы юриста. **7.00, 8.05, 17.15** Стальные парни. **7.50, 10.15, 13.55, 16.05, 19.15, 0.10, 1.45, 3.50** Итоговые новости. **8.50, 18.50** Автодрайв. **9.20** Сравнительный тест. **9.45** Это Родина твоя. **10.30, 2.30** Вечер с Пикуленко. **11.10, 0.25, 2.00** Работяги. **11.45, 19.30, 22.35** Металлоломщики. Сезон 4. **12.30, 20.15, 23.15, 4.05** Мотогараж. **13.00, 20.45, 23.45, 4.35** Проверка на дороге. **13.25, 3.10** Тест на «Драйве». **14.05** Вторичка. **14.20** Тайный покупатель. **14.50** Сити-тестер. **15.20, 1.30, 3.40** Всё включено. **15.35, 1.00** Комплектация. **16.20, 21.15, 5.00** Пусть меня научат. **16.50, 5.30** Сделано в России. **21.45** Теория полного привода.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.40, 9.35** Невероятная рыбалка. **10.30, 11.15, 12.00, 12.50, 13.40, 14.25** Поисковая команда в Австралии. **15.15, 16.05** Австралийские золотоискатели. **16.55** Самые опасные дороги мира. **18.00, 18.50** Переделка старья. **19.40** Надсмотрщик. **20.30** Тренировка по древним традициям. **21.25, 22.10** Катастрофические проекты. **22.55** Лондонский супертуннель. **0.00** Супердальнобойщики. **0.50** Пятая передача. **1.35** Как работают лайфхаки. **2.30, 2.50** Пиротехника: живопись огнем. **3.20, 3.40** Переезд вместе с домом. **4.05, 4.25** Дома на воде. **4.50, 5.10, 5.30** Братские проекты.

### HISTORY

**6.25, 7.00, 4.15, 4.45** Невероятные изобретения. **7.30, 2.40, 3.30** Музейные тайны. **8.20, 9.15, 10.10** История далекого прошлого. **11.05, 11.30, 11.55, 12.20** Погода, изменившая ход истории. **12.50, 13.40** Величайшие мистификации в истории. **14.30, 23.00** Смертоносный интеллект. **15.20** Загадочные убийства: царственные особы. **16.10** Преступность военного времени. **17.00, 17.30** Тайны Парижа. **18.05, 1.50** Запретная история. **19.00** Тайная война. **19.55** Владыки Тихоокеанского побережья. **21.00** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **22.00** Первые люди. **23.50** Дети королевы Виктории. **0.55** Вторая мировая в цвете. **5.15** Мощь вулканов.

### NATURE

**6.00, 6.30, 7.00, 7.30** Самый дикий город Аляски. **8.00, 8.55, 9.50** Жизнь: первые шаги. **10.50, 11.45** Великая американская оттепель. **12.45** Дикая Канада. **13.45** Дикая Бразилия. **14.40, 15.40** Дикая Швейцария. **16.40** Баварское горное королевство. **17.40, 18.35, 19.30** Город полярных медведей. **20.30, 21.25, 22.20** Огромные звери: последние из великанов. **23.15, 0.10, 1.05** Взрывная Земля. **2.00, 2.55, 3.50, 4.40** Жуткие, настоящие и странные. **5.30** Животные инстинкты с Крисом Хамфри.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Зона строительства. **6.25** Невероятные машины. **7.15, 8.00, 4.30, 5.15** Авто – SOS. **8.50, 9.30, 10.15** Шоссе через ад. **11.00, 11.50** Неизвестный Китай. **12.40, 22.50** Секунды до катастрофы. **13.30, 21.15** «Титаник»: 20 лет спустя» с Джеймсом Кэмероном. **14.20, 18.10, 23.40** Спасти «Титаник» с Бобом Баллардом. **15.05, 1.15** Фатальный пожар на Титанике. **15.50, 16.35, 17.25, 19.45, 20.30** Осушить океан: глубокое погружение. **19.00, 22.05, 0.30, 2.00** Осушить океан: «Титаник». **2.50** НЛО в Европе: Нерассказанные истории.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.55** Егерский кордон. **6.30, 23.25** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь. **7.00** Рыбалка в Шотландии. **8.00, 19.40** Рыболовы. **8.30, 20.10** Нахлыст. **9.00** Горная охота на камчатского барана. **9.30, 21.10, 3.45** Фишермания. **10.00** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **10.35, 22.10** Охота в Беларуси. **11.05, 17.40, 1.25, 5.05** Трофеи. **11.35, 19.10, 1.55, 5.35** Водный мир. **12.05** Охота на серну в Каталонии. **13.05** Территория льда. **13.35** Такая жизнь охота с Сергеем Бешенцевым. **14.10** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **14.40, 2.20** Рыбалка-шоу ТВ. **15.10, 2.45** Охотник-одиночка. **15.40, 3.15** Горная охота на средне-кавказского и кубанского тура. **16.10** На рыбалку с охотой. **16.45, 4.10** Рыбалка сегодня. **16.55, 4.25** Подводная охота. **17.30, 4.50** Первый лед последний лед. **18.10** Красная птица и зеленый дуб. **20.40** Горная охота в Таджикистане. **21.40** Карпфишинг. **22.40** Две на одного. Оружие. **23.55** Рыбалка 360. **0.25** Бристольский залив. **1.15** Охотничьи традиции и этика.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 13.55, 18.00, 21.50, 1.50** Инспекция Холмса. **6.55, 10.45, 14.50, 18.45, 22.50, 2.50** Варенье. **7.05, 11.05, 15.10, 19.00, 23.05, 3.05** Семейный обед. **7.40, 11.35, 15.40, 19.35, 23.35, 3.30** Хозяин. **8.10, 12.05, 16.10, 20.05, 0.05, 4.25** 10 самых больших ошибок. **8.40, 12.35, 0.35** Детская мастерская. **8.55, 16.55, 20.50, 0.50, 5.05** Искатели приключений. **9.30, 13.25, 1.25** Как поживаете? **12.55** Стройплощадка. **16.40, 20.35** Забытые ремесла. **17.25, 21.20, 5.35** Умный дом. Новейшие технологии. **2.35** Наш румяный каравай. **4.00** Старинные русские усадьбы. **4.50** Не просто суп! Спецвыпуск.

## SETANTA SPORTS

### ПЯТНИЦА

**1.00, 16.15** Хоккей. НХЛ. **4.00, 10.45** Д/ф. **4.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Парма» – «Торино». **6.15** Бессмертные. Браунли / Баннистер / Адамс / Фриман. **6.45** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **7.15** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **8.15, 14.45** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **9.15** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **10.15** Дрим Тим. Португалия / Лучшее от Хиддинка. **11.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Наполи» – «Дженоа». **13.00** Футбол. Чемпионат Испании. «Вальядолид» – «Севилья». **15.45** Звёзды футбола. **18.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Фиорентина» – «Фрозиноне». **20.00** Дрим Тим. Гольф. **20.30** «Сетанта Спорт». **20.40** Футбол. Чемпионат Франции. «Нант» – «Лион». **22.45** Гольф. Мастерс (Огаста, США).

### СУББОТА

**1.00, 13.30** Хоккей. НХЛ. **4.00** Бокс. Обзор. **4.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Сампдория» – «Рома». **6.15** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **7.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Интер» – «Аталанта». **9.00** Футбол. Чемпионат Франции. «Нант» – «Лион». **10.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Ювентус» – «Милан». **12.30** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **15.30, 18.15** «Сетанта Спорт». **15.40** Дрим Тим. Челси / дель Боске. **16.10** Футбол. Чемпионат Испании. «Уэска» – «Барселона». **18.25** Футбол. Чемпионат Испании. «Атлетико Мадрид» – «Сельта Виго». **20.30** «Сетанта Спорт Экстра». **20.40** Футбол. Чемпионат Испании. «Севилья» – «Реал Бетис». **22.45** Гольф. Мастерс (Огаста, США).

### ВОСКРЕСЕНЬЕ

**1.00** Хоккей. НХЛ. **4.00** Смешанные единоборства. UFC 236. **7.00, 17.30** Бокс. Обзор. **7.30** Футбол. Чемпионат Италии. «СПАЛ» – «Ювентус». **9.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Милан» – «Лацио». **11.00** Дрим Тим. Бразилия / Лучшее от Гвардиолы. **11.30** Д/ф. **11.55** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Вальядолид» – «Хетафе». **14.00** Дрим Тим. Формула 1. 2 ч. **14.30** Дрим Тим. Формула 1. 3 ч. **14.55** Футбол. Чемпионат Италии. «Сампдория» – «Дженоа». **17.00** Дрим Тим. Португалия. Лучшее от Хиддинка. **17.55** Футбол. Чемпионат Италии. «Кьево» – «Наполи». **20.00** Дрим Тим. Голландия / Африка. **20.30** Звезды футбола. **20.55** Футбол. Чемпионат Франции. «Лилль» – «ПСЖ». **23.00** Гольф. Мастерс (Огаста, США).

# Што рабіць, калі саржавеў VIN-код?

**Усё жалезнае рана ці позна іржавее. У тым ліку аўтамабілі. І рана ці позна падчас праходжання тэхагляду або пры куплі-продажы аўто можна пачуць: «А ў вас нумар кузава згніў!».**

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

У нашым распараджэнні – «форд эскорт», універсал 1996 года. Ён быў на «транзітах» – зняты з уліку болей за год таму. За гэты час нумар кузава, ён жа VIN-код, моцна саржавеў. Пакупнік разумеў: будуць пытанні з пастаноўкай на ўлік. І разам з ім «РГ» адправілася ў Маладзечанскі міжраённы аддзел судовых экспертыз – меnавіта там вызначаюць, што з нумарам не так.

### Чаму нумар такі важны?

Нумар кузава або рамы транспартнага сродку (Vehicle identification number, VIN) – самы галоўны ідэнтыфікацыйны знак аўтамабіля. Гэта ўнікальны код, у якім зашыфраваныя вытворца, характарыстыкі і год выпуску транспартнага сродку. Ён не проста дапамагае знайсці правільныя запчасткі, але і вызначае, ці не знаходзіцца машына ва ўгоне або мае іншы крымінальны лёс. Гэты нумар правяраецца пры зняцці аўто з уліку і пастаноўцы на ўлік, а таксама на тэхагляде аўто. Пры любым пашкоджанні гэтага нумара або сумневах у яго арыгінальнасці ўласніка машыны накіруюць да судовых экспертаў, якія разбяруцца, што ж з ім не так.

### Калі машыны трапляюць на экспертызу

– Часцей за ўсё да нас накіроўваюць аўтамабілі з МРЭА ДАІ або станцыі тэхагляду. Ёсць і ўласнікі, хто сам бачыць: нумар кузава пашкоджаны карозіяй, і прыязджаюць самі, – распавёў старшы эксперт сектара крыміналістычных экспертыз Маладзечанскага міжраённага аддзела судовых экспертыз капітан юстыцыі **Аляксей Рабовіч**. – Экспертыза ў гэтых выпадках праводзіцца на платнай аснове. Таксама машыны могуць трапляць да нас ад мытнікаў, следчых – гэта бывае ў выпадках, калі падазраюць, што ў VIN-код уносіліся змены.

Аляксей скончыў Акадэмію МУС і па размеркаванні патрапіў у экспертна-крыміналістычны сектар Маладзечанскага міжраённага аддзела Дзяржкамітэта судовых экспертыз. Праз паўтара года з'явілася вакансія ў самім Маладзечне. Аляксей прайшоў стажыроўку і ў 2016 года стаў адзіным на Маладзечна, Вілейку і Валожын спецыялістам, які можа займацца экспертызамі, звязанымі з ідэнтыфікацыяй транспартных сродкаў. Нагрузка вялікая. Але хутка ў эксперта з'явіцца памочнік – цяпер ён стажыруецца.

За 2018 год Аляксей правёў экспертызу 145 аўтамабіляў на платнай аснове. Яшчэ 25 машын патрапілі да эксперта па падазрэнні ў крымінальным мінулым.

Самыя напружаныя месяцы – чэрвень і ліпень, зімой колькасць экспертыз рэзка змяншаецца. Яно і зразумела: аўтааматары пачынаюць прыводзіць у парадак свае машыны або рыхтаваць да продажу пры спрыяльным надвор'і, тады і звяртаюць увагу на стан VIN-кода.

Экспертыза адказвае на шэраг пытанняў. Ці змяняўся ідэнтыфікацыйны нумар транспартнага сродка, прадстаўленага на экспертызу? Калі змяняўся, то які змест першапачатковага VIN-кода? Ці мае цца на прадстаўленым транспартным сродку завадская шыльда? Калі так, то ці ўносіліся змены ў яе змест і ці падвяргалася яна паразамацаванню? Адказы на іх дазваляюць вызначыць: VIN проста пашкоджаны часам або зменены наўмысна.

### Як праводзіцца экспертыза

Уласнік аўто піша заяву. Пасля заключаецца дамова на экспертызу. Кошт экспертызы залежыць ад затрачаных часу і расходных матэрыялаў эксперта. Пасля пацвярджэння аплаты эксперт прымаецца за працу.

Мы загналі «форд» на пляцоўку да экспертаў. Даследаваць трэба нумарную пляцоўку да бліжэйшай панэлі, злучанай кропкавай зваркай. Таму заяўніку лепш загадзя паклапаціцца пра доступ да яе. У «Фордаў» кузава месціцца на падлозе справа ад пярэдняга пасажырскага крэсла, таму нам давялося зняць пасажырскае крэсла і пластыкавыя накладкі, каб можна было падняць дыван і агледзець падлогу машыны аж да цэнтральнага тунэля.

Аляксей пачаў з фатаграфавання машыны з розных ракурсаў – гэта частка методыкі. Наогул, кожны этап яго працы фіксуецца на фота: нумарная пляцоўка, шыльда пад капотам, нумар на панэлі пад лабавым шклом… Далей быў нанесены адмысловы хімічны састаў на ўсё нумарную пляцоўку. Чакаем паўгадзіны і змываем састаў – разам з фарбай. Ужо на гэтым этапе эксперт можа ўбачыць «лішнія» зварныя швы. Калі ж усё добра, працуюць далей з самім нумарам. Металічнай шчоткай акуратна выдаляецца верхні пласт іржаўчыны, пры патрэбе хімічна вытраўліваюцца яе рэшты. У нашым выпадку гэтага не спатрэбілася – нумар цалкам прачытаўся пасля змыўкі фарбы.

А што, калі ад нумарной пляцоўкі не засталося жывога месца?

– Мы абавязкова глядзім ідэнтыфікацыйную шыльду пад капотам. Робім высновы, ці было незавадское ўмяшальніцтва, – патлумачыў эксперт.

Гэтая шыльда – другі па важнасці элемент ідэнтыфікацыі пасля самога нумара кузава. Звычайна яна прыкляпаная да той ці іншай панэлі пад капотам. Эксперты ведаюць, як павінна выглядаць завадская клёпка, дзе ў выпадку падазрэння на неарыгінальнасць самой панэлі шукаць зварныя швы.

### Нумар проста згніў…

Іржавы нумар – абсалютная большасць сітуацый, з якімі сутыкаюцца эксперты. Найчасцей на экспертызу прыязджаюць «Форды» і «Фіяты»: VIN-нумар выбіты на падлозе, дзе збіраецца вільгаць. Дзіўна, але старыя «Опелі», што маюць рэпутацыю машын, якія вельмі хутка гніюць, на экспертызе з'яўляюцца значна радзей.

– Нумар кузава, які яшчэ год таму быў у прыстойным стане, да наступнага тэхагляду можа згніць цалкам нават праз невялічкую дзірачку, якая з'явілася ў падлозе побач, – патлумачыў Аляксей. – Бывае, што на праблему звяртаюць увагу своечасова. Мы раім падварваць падлогу знізу і такім чынам, каб было бачна: прастора з нумарам кузава – адзінае цэлае з астатняй яго часткай.

Бываюць сітуацыі, калі ані нумара кузава, ані шыльды ўжо фактычна няма: час бязлітасны. Старыя грузавікі, напрыклад. І калі эксперт не выявіць слядоў умяшальніцтва, то машыну зарэгістраваць усё-ткі будзе магчыма. Але без права продажу на працягу трох год.

### …або мае сляды ўмяшальніцтва

Любое ўмяшальніцтва ў ідэнтыфікацыйны нумар транспартнага сродку – крымінальнае злачынства.

Напрыклад, калі машына была ўгнаная, нумар кузава або рамы маглі змяніць: перабіць або ўварыць пласціну з нумарам, памяняць ідэнтыфікацыйную шыльду.

– Бываюць сітуацыі, калі машына была ўгнаная, скажам, у Расіі, нумары перабітыя, а дакументы фальшывыя, а выкрываецца гэта толькі тады, калі пакупнік спрабуе паставіць яе на ўлік. У інспектара, хутчэй за ўсё, узнікнуць пытанні да ідэнтыфікацыі. А ў нас ёсць спосабы з дапамогай хімічных рэчываў вытравіць арыгінальны нумар і зафіксаваць яго значэнне, – расказаў Аляксей.

Калі падазрэнні пацвярджаюцца, аўто вывучаюць вельмі дасканала. Адбываецца ідэнтыфікацыя маркіроўкі рухавіка, каробкі пераключэння перадач, нават асобных кузаўных элементаў. Можа спатрэбіцца і камп'ютарная дыягностыка.

Калі эксперты выкрываюць арыгінальны нумар і высвятляецца, што аўто лічыцца ва ўгоне, з машынай можна развітацца. Часцей за ўсё машына вяртаецца сапраўднаму ўласніку.

– У мяне быў выпадак, калі ўласнік сказаў: я тут атрымаў страхоўку і набыў сабе машыну яшчэ лепшую, і хай пакупнік, які патрапіў у гэтую сітуацыю, пакіне аўто сабе, – распавядае Аляксей. – Тады машына засталася ў пакупніка, але, канешне, у тэхпашпарце з'явілася адзнака, што VIN-нумар быў зменены. Але гэта вялікая рэдкасць.

### Усё ў парадку. Што далей?

На тое, каб аформіць пісьмовае заключэнне з вынікамі экспертызы, у адпаведнасці з дамовай у эксперта ёсць 30 дзён. Гэта даволі працаёмкі працэс: падвесці вынікі, падмацаваць фотаздымкамі, атрымаць рэцэнзію на дакумент у кіраўніцтва… А машынка шмат. Пра гатоўнасць заключэння заяўнік даведваецца па пошце. Аднак, кажа Аляксей, звычайна ўласніку тэлефануюць, і ён можа прыехаць у аддзел, пісьмова адмовіцца ад паштовага паведамлення і адразу атрымаць дакумент. Ён будзе падставай для таго, каб зафіксаваць тую ці іншую працэдуру зверкі VIN-кода ў тэхпашпарце.

Як ідэнтыфікаваць аўтамабіль, вырашае інспектар у МРЭА ДАІ: трэба ўклеіць у тэхпашпарт фотаздымак з рэштамі нумара на кузаве, якія яшчэ можна прачытаць, або дастаткова шыльды пад капотам.

– Сачыце за станам нумарной пляцоўкі! І будзьце пільнымі, калі набываеце аўто! – на развітанне кажуць эксперты, калі мы сядаем у старэнькі «форд» і едзем чакаць заключэння.



Аляксей Рабовіч даследуе ідэнтыфікацыйную шыльду пад капотам аўто.



Фрагмент VIN-кода да экспертызы і пасля яе.

Маладзечанскі міжраённы аддзел Дзяржкамітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь месціцца па адрасе: завулак Партызанскі, дом 1. Запісвацца на экспертызу трэба загадзя па нумары (8-0176) 50-08-74.

**Ігар ПАЛЫНСКІ.**
**Фота аўтара.**

# Цень, які гутарыць з Мюнхгаўзенам

## Акцёр Андрыян Барткевіч – пра творчасць і пра сябе

МАЛАДЗЕЧНА

**Напачатку красавіка артыст Мінскага абласнога драматычнага тэатра Андрыян Барткевіч адзначае паўвекавы юбілей.**



Андрыян Барткевіч.

Юбіляр – не толькі акцёр, але і рэжысёр-пастаноўшчык, кіраўнік народнага тэатра «Метамарфозы», кінарэжысёр-эксперыментатар.

Напярэдадні свята гутарым з **Андрыянам Барткевічам.**

**– Ваш самы першы ўспамін пра тэатр? Якая казка, спектакль і ў чыім выкананні вам помніцца?**

– Спектакль па п'есе Бертальда Брэхта «Добры чалавек з Сезуана» ў пастаноўцы Юрыя Любімава. Дарэчы, з гэтага спектакля пачалася гісторыя Любімаўскай «Таганкі», а для мяне стала сімвалічным уваходам ва ўсведамленне мастацтва тэатра.

**– Хто ці што зрабіла найбольшы ўплыў на выбар прафесіі артыста?**

– Індыйскі акцёр Амітабх Баччан і югаслаўскі Гойка Міціч. Я быў у захапленні ад блокбастэра «Помста і закон». А індзеец усіх часоў і народаў Чынгачгук скарыў сэрцы многіх маіх аднагодкаў. Але, калі іншыя захапляліся сюжэтам і асобамі герояў, то я рэальна хацеў менавіта сыграць іх, а не жыць іх жыццём.

**– Як паставіліся бацькі, родныя і блізкія людзі да вашага выбару?**

– Вельмі спакойна. Мае бацькі выхоўвалі з мяне найперш прыстойнага чалавека, таму род маіх заняткаў і прафесія былі другаснымі. Галоўнае, на іх думку, каб я быў чалавекам ва ўсіх сэнсах.

**– Што было самым складаным у авалоданні прафесіяй?**

– Адэкватнае ўспрыманне сцэнічнага вобразу, які ты ствараеш, з тым, якім ты яго сабе ўяўляеш. Часцяком нашае ўспрыманне не адпавядае таму, што бачаць гледачы.

**– Ваша любімая роля?**

– Лапахін у «Вішнёвым садзе» Антона Чэхава. Між іншым, я быў і рэжысёрам-пастаноўшчыкам гэтага спектакля.

**– А нелюбімая роля?**

– Іх нават больш, чым вы можаце сабе ўявіць. Я вельмі спадзяюся, што глядач не заўважаў гэтай акалічнасці. Бо адна справа, калі я іграю нелюбімую ролю Цені ў спектаклі «Кім» і проста вельмі доўга стаю за шырмай. Іншая – калі мой персанаж на вачах усёй глядзельнай залы.

**– Запаветная мара, якая здзейснілася.**

– Была запаветная мара купіць аўтамабіль. Ну купіў. Ну, аўто... Але не стала мары. З таго часу раблю, што павінен і не загадваю ні пра што.

**– Якімі якасцямі, на вашу думку, найперш павінны валодаць артыст тэатра?**

– Мець розум. Талент без розуму – гэта недарэчнасць, бязглуздзіца, якая часам можа мець страшныя наступствы.

**– А якімі якасцямі павінен валодаць рэжысёр-пастаноўшчык, каб вы адчувалі сябе камфортна і ўпэўнена падчас рэпетыцый і пастановак?**

– Найперш рэжысёр павінен быць прафесіяналам, які валодае ўсімі інструментамі і метадамі дзеля ажыццяўлення творчай задумы. А ў працы з акцёрам самае важнае – давер.

**– Якога творчага чалавека вы лічыце сваім настаўнікам ў мастацтве тэатра?**

– Іх вельмі шмат: Аляксандр Кузін, Мадэст Абрамаў, Вячаслаў Грыбайла, Марк Захараў, Валеры Раеўскі, Галіна Шалянкова, Рыд Таліпаў, Акіра Курасава, Эмір Кустурыца... Спіс можна працягваць. Я не стамляюся вучыцца ў таленавітых творцаў.

**– Як вы думаеце, якіх пастановак і на якую тэму чакае маладзечанскі глядач?**

– Я ўпэўнены, што тэма – не галоўнае. Сёння людзям не хапае праўдзівых пастановак пра чалавека і для чалавека. Шмат надуманага, а хочацца шчырага, сапраўднага.

**– Як чалавек на працягу месяцаў і гадоў іграе адну і тую ж ролю? Хіба яна не прыядаецца?**

– У дзіцячым спектаклі тэатра-студыі «АРТ» «Гусяня Дарафей» я іграў Вожыка. За два гады казка ішла каля шасцісот разоў! І не прыелася! Ведаеце чаму? Я – прафесіянал і кожны раз я іграў гэтую ролю крыху інакш. Многія ролі выконваеш на аўтамаце. Не абавязкова павінны кожны раз атрымаць задавальненне ад ігры, галоўнае, каб глядач быў задаволены.

**– Момант найвялікшага задавальнення ад творчай работы?**

– Усведамленне таго, што зрабіў усё магчымае. І адначасова здзіўленне – я гэта зрабіў!

**– У свой час вы замахнуліся на Уільяма Шэкспіра. Які ўрок атрымалі, які досвед набылі?**

**– Я меў стасункі з самім Уільямам Шэкспірам. Гэта было свята! Шэкспір – гэта назаўсёды.**

Можна параўноўваць з іншымі пастаноўкамі, можна знаходзіць у іх нейкія хібы. Але судачыненне з класікай заўжды ўзбагачае.

**– Чаго вы саромеецеся, ад чаго хочаце пазбавіцца?**

– Прабачце, але гэта мая асабістая шафа са сваімі шкілетамі. Буду разбірацца з гэтым сам, не агаляючы душы.

**– Вас добра ведаюць як рэжысёра-пастаноўшчыка дзіцячых спектакляў. Што самае складанае ў падборы п'есы для дзяцей і ў яе ўвасабленні?**

– Па-першае, мяне як пастаноўшчыка мала хто ведае. Хіба што памятаюць мае спектаклі. Па-другое, асабіста для мяне ў падборы дзіцячай п'есы складанасцяў няма. Проста павінна быць гісторыя з добрым героем, які перамагае. А прадставіць яе, з улікам дзіцячай псіхалогіі, неабходна такім чынам, каб было меньш слоў, а больш справы, больш руху.

**– Ці павінен творчы чалавек абавязкова быць амбіцыйным?**

– Амбіцыі не заўжды добрая рэч. Амбіцыйны дурань прыносіць разбурэнне. Творчы чалавек найперш абавязаны самаразвівацца, удасканальвацца. Сальвадор Далі казаў: «Не бойся дасканаласці – табе яе не дасягнуць!». Трэба шмат працаваць, бо і акцёр, і рэжысёр залежныя ад многіх абставінаў, ад многіх кіраўнікоў. Іншы раз тупа сядзіш без працы. Вось апошнія пяць гадоў я амаль не маю новых роляў, затое стаўлю спектаклі ў народным тэатры «Метамарфозы». Таму, пра якія амбіцыі можа ісці гаворка? Хіба толькі пра гонар прафесіянала, які вартасна выконвае сваю работу.

**– Ці ёсць будучыня у тэатра?**

– Вось адключаць электрычнасць – будзем байкі травіць каля вогнішча. Тэатр вечны! Гэта адна з формаў усведамлення рэчаіснасці, пазнання жыцця.

**– Вы верыце ў прыкметы?**

– Ёсць некалькі сноў, якія мяне папярэджваюць пра нейкія перамены ў жыцці.

**– Калі параўноўваць Андрыяна Барткевіча 25-гадовага і сённяшняга, то што іх найперш адрознівае, а што засталося нязменным?**

– Цяпер я не такі самаўпэўнены, менш запальчывы. Але па-ранейшаму ўпарты.

**– Якія недахопы вы найлягчэй даруеце людзям?**

– Лёгка дарую чалавеку няведанне чагосьці.

**– Ці ёсць чалавек у вашым акружэнні, з якім бы вы не пабаяліся пайсці ў разведку?**

– Ёсць. Гэта мой сябар **Алег Асіноўскі**, аўтар п'есы «Цішка, слухай!», якая была пастаўлена ў Мінскім абласным драмтэатры ў 2006 годзе і ішла некалькі гадоў. Шкада, што гэты музычны, сапраўды беларускі спектакль, спісаны з рэпертуару.

**– Чым вы кіруецеся, калі прымаеце лёсавызначальнае рашэнне?**

– Задаю сабе пытанне: «А наколькі мне гэта патрэбна?» А далей альбо шашкі нагала альбо чакаю, пакуль адпусціць. Іншы раз логіка маўчыць, а гаворыць сэрца. Тады магу ўвязацца ў бойку, не думаючы пра наступствы.

**– Якія маеце творчыя планы?**

– Маю так званае партфоліа – збор п'ес, якія мару паставіць. Ёсць свабода творчасці ў народным тэатры «Метамарфозы». Ёсць здароўе і магчымасці прапагандаваць мастацтва тэатра ў навучальных установах, дзе часта знаходжу артыстаў для народнага тэатра. Ёсць магчымасць, як у барона Мюнхгаўзена, мець стасункі з Шэкспірам і іншымі слыннымі людзьмі праз іх творчасць.

**Гутарыла Ала КЛЕМЯНОК.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# У Маладзечне рабілі арыгамі і слухалі пра Японію

МАЛАДЗЕЧНА

**У бібліятэцы сямейнага чытання «Верасок» 2 красавіка прайшла сустрэча з Масако Тацумі – дырэктарам інфацэнтра японскай культуры «Чыра».**



Масако Тацумі расказвае гісторыю пра дзяўчынку Садако, якая захварэла прамянёвай хваробай падчас бамбардзіроўкі Хірасімы.

Масако прыехала ў Беларусь у 1995 годзе, каб у Мінску ў БДУ прайсці курсы рускай мовы. Менавіта ў Беларусі яна выйшла замуж за спартсмена **Сцяпана**, які займаўся стральбой з лука. Потым нарадзіла дачку **Юйэ** – імя ў перакладзе з японскай імя значыць «Японія і Беларусь». Цяпер Юйэ вучыцца ў 11 класе, займаецца перакладамі з японскай.

Даведка «РГ»:
Фонд «Чыра» – недзяржаўны дабрачынны фонд, створаны ў 1997 годзе для дапамогі ў вывучэнні японскай мовы, культуры і звычаяў Японіі ў Беларусі, а таксама для стварэння прыязных адносін паміж краінамі. Прыярытэты – павага да жыцця, дапамога адно аднаму, разуменне паміж рознымі грамадствамі і культурамі.

Масако наведвае Маладзечна ўжо чацвёрты раз. Падчас першай сустрэчы яна расказвала гледачам пра японскі сад. У другі раз маладзечанцы даведаліся, як правільна рабіць чайную цэрымонію. Таксама Масако расказвала пра каліграфію, пра кнігі японскага дзіцячага пісьменніка **Нанкіцы Ніімі**. Падчас папярэдніх сустрэч яна падарыла «Вераску» шмат кніг.

Японскую мову ў школе не вучаць, таму пра саму краіну амаль нічога не расказваюць. Падчас сёлетній сустрэчы Масако падзялілася з наведнікамі цікавымі звесткамі пра радзіму.

Гледачы даведаліся, што менавіта японцы прыдумалі аўтаматычны аловак і крабавыя палачкі. У японскіх школах пасля заняткаў выкладчыкі і вучні самі прыбіраюць у аўдыторыях.

**Таксама тут распаўсюджанае ўсынаўленне дарослых мужчын з мэтай перадачы бізнэсу і захоўвання яго ў сям'і.**

– У Японіі ёсць спецыяльныя вагоны ў метро для жанчын.

**У краіне шмат людзей, таму каб падчас паездкі жанчына не вымушаная была прыхіляцца да незнаёмых мужчын, у метро існуюць спецыяльныя вагоны выключна для жанчын.**

Прычапляюць такія вагоны раніцай, – дзеліцца Масако.

А яшчэ падчас сустрэчы Масако вучыла наведнікаў рабіць сапраўднае арыгамі. Гэта від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, старажытнае мастацтва складання фігурак з паперы, якое вельмі добра развілася ў Японіі. Раздала падрыхтаваную загадзя паперу і схему вырабу. Адну фігурку рабілі прыкладна 20 хвілін, аказалася, гэта складана. У выніку кожны сышоў дадому не толькі з карыснымі ведамі пра японскую культуру, але і з уласнаруч зробленым папяровым жураўлікам.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Увага! Газаправод!




**Нягледзячы на працу па прафілактыцы парушэнняў пры вытворчасці будаўнічых і земляных работ здараюцца выпадкі, калі пашкоджваюць падземныя газаправоды.**

У выніку спажыўцоў адключаюць ад газазабеспячэння, наносяць матэрыяльную шкоду, ствараюць аварыйную абстаноўку. Узнікае пагроза здароўю і жыццю насельніцтва, работнікаў.

Каб забяспечыць захаванасць, уздоўж газаправодаў ўстаноўлены наступныя ахоўныя зоны (ад восі газаправода з кожнага боку): для нізкага ціску – 2 метры, сярэдняга ціску – 4 метры, высокага ціску II катэгорыі – 7 метраў, высокага ціску I катэгорыі – 10 метраў.

Філіял вытворчага ўчастка «Маладзечнагаз» звяртае ўвагу кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўладальнікаў прыватных дамоў на выкананне мер бяспекі пры правядзенні земляных работ у ахоўных зонах газаправода.

Згодна з «Палажэннем аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы, памерах і рэжыме іх выкарыстання», зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 06.11.2007 №1474 для пачатку работ у месцах размяшчэння газаправодаў як юрыдычным, так і фізічным асобам неабходна атрымаць пісьмовы дазвол газазабеспячальнай арганізацыі, удакладніць на мясцовасці дакладнае размяшчэнне газаправода, для чаго папярэдне, за суткі, выклікаць прадстаўніка газавай гаспадаркі.

Перад пачаткам раскопак для ўдакладнення размяшчэння газаправодаў і глыбіні іх залягання выканаўца работ павінны зрабіць шурфаванне – кантрольнае ўскрыццё – газаправода пад наглядам прадстаўніка філіяла вытворчага ўчастка «Маладзечнагаз». Пры гэтым выканаўца работ павінны абазначыць трасу газаправода і збудаванняў на ім, іх захаванасць на ўвесь перыяд правядзення работ.

**У ахоўных зонах газаправодаў забаронена:**

- ўстанаўліваць падмуркі будынкаў і збудаванняў;
- апрацоўваць грунт на адлегласці менш за два метры ад восі газаправода, сцен газарэгулятарных пунктаў і іншых газавых збудаванняў;
- самавольна адчыняць люкі газавых калодзежаў, адчыняць і зачыняць краны і засаўкі, ладзіць звалкі, выліваць агрэсіўныя вадкасці, складаць матэрыялы і абсталяванне ўздоўж трасы падземнага газаправода ў межах двух метраў па абодва бакі ад яго восі;
- высаджваць дрэвы і хмызнякі ў межах палутара метраў па абодва бакі ад газаправода, распальваць агонь.

Памятайце! Парушэнне патрабаванняў «Палажэння аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы» і пашкоджанне газаправода можа прывесці да выбуху, чалавечых ахвяр, матэрыяльных страт і спынення газазабеспячэння спажыўцоў. Таксама цягне за сабой складанне пратаколу на вінаватага з накладаннем штрафа ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь.

Выплата штрафа не вызваляе вінаватых ад пакрыцця нанесенага матэрыяльнага ўрону ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Філіял ВУ «Маладзечнагаз».**

УНП 100008077

# Час шукаць карані

**Бадай асноўнай праблемай пры складанні радаводу робіцца адсутнасць ці недасяжнасць неабходных дакументаў. Частку адпаведных архіўных матэрыялаў проста знішчылі часам войнаў, рэвалюцый, рабаванняў храмаў ваяўнічымі атэістамі.**



Семінар у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі 27 сакавіка 2019 г. На пярэднім плане Анатоль Сцебурака.

Таму пры большменш сур'ёзных пошуках аматару генеалогіі прыходзіцца выпраўляцца ў дастаткова далёкія вандроўкі, калі ў фондах архіваў Менску ці Гародні не знаходзіцца патрэбных крыніц. Каб зазірнуць крыху глыбей у мінулае, трэба абавязкова звяртацца да архіваў Літвы, Расіі, Польшчы і іншых краін.

Напрыклад значную частку метрычных кніг 18 стагоддзя большасці ўніяцкіх прыходаў нашага рэгіёну сёння трэба шукаць у фондзе «Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў у Расіі» Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбурзе. А ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы цяпер знаходзяцца дакументы з каталіцкіх, праваслаўных і ўніяцкіх цэркваў нашага краю.

З-за такой раскіданасці беларускіх крыніц вельмі важна добра арыентавацца ў метадалогіі пошуку і магчымасцях спецыялізаваных сайтаў, якія даюць дыстанцыйны доступ да ўнікальных дакументаў. Для абмеркавання гэтых праблем 27 сакавіка ў Менску адбыўся навукова-практычны семінар «Крыніцы па генеалогіі ў беларускіх архівах і бібліятэках», які сабраў у адмысловай Зале адукацыйных тэхналогій больш за 70 удзельнікаў. Яго арганізатарамі сталі Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.

На семінары прагучала некалькі грунтоўных дакладаў, якія былі найперш разлічаныя на аматараў складання радаводу. Намеснік дырэктара НГАБ, кандыдат гістарычных навук Дзяніс Лісейчыкаў распавёў аб сучасным стане спраў у пошуку продкаў і тэндэнцыі трывалага павелічэння цікавасці да вывучэння сваіх каранёў, пераважна польскіх і яўрэйскіх. Лісейчыкаў падкрэсліў, што ў сувязі з вялікай колькасцю атрыманых запытаў, заяўкі на правядзенне генеалагічных даследаванняў часова не прымаюцца архівам. Аднаўленне прыёму такіх заявак мяркуецца толькі ў студзені 2020 года. А таму трэба карыстацца разнастайнымі альтэрнатыўнымі магчымасцямі, каб знайсці дакументы ў сеціве на спецыялізаваных сайтах (такіх як epaveldas.lt, familysearch.org, lvvaraduraksti.lv і інш.).

У сваю чаргу Вадзім Урублеўскі, кандыдат гістарычных навук, загадчык сектара тэматычных даследаванняў і выставачнай дзейнасці аддзела выкарыстання дакументаў і інфармацыі НГАБ, агучыў даклад на тэму «Генеалагічная асвета ў Беларусі на сучасным этапе». Ён таксама пазнаёміў аўдыторыю з дзейнасцю аб'яднання «Радавод» пры гістфаку БДУ, якое аб'ядноўвае беларускіх даследчыкаў генеалогіі, і зрабіў агляд сучасных тэматычных суполак і праектаў (Згуртаванне беларускай шляхты, Школа практычнай генеалогіі, Гісторыка-генеалагічнае таварыства «Вытокі», Рэсурс «Радавод» (www.radawod.by), праект «Вілейскі павет» (www.vilejski-uezd.by), партал «Пошук продкаў»:(www.poiskpredkov.by), «Дапаможнік: пошукавая сістэма» (www.helper.archonline.by)).

Яшчэ адзін прадстаўнік НГАБ – Яўген Глінскі, загадчык сектара рэдакцыйна-выдавецкай падрыхтоўкі аддзела публікацыі дакументаў, – зрабіў даклад на захапляльную тэму «Фальсіфікацыі генеалагічных дакументаў: як выявіць сфальшаваныя дакументы? як выявіць спражытную падробку?». Паводле яго назіранняў вялікі адсоткак папер былі сфальшаваныя ў XIX ст., калі справа заходзіла аб дакументах аб доказе шляхецкага паходжання.

У канцы семінара слова ўзяў кандыдат гістарычных навук дацэнт Анатоль Сцебурака, загадчык НДА кнігазнаўства НББ. Яго паведамленне мела выключна практычную мэту папулярызацыі рукапісных фондаў Нацыянальнай бібліятэкі, якія могуць быць выкарыстаны для пошуку продкаў, але пакуль малавядомыя шырокім колам даследчыкаў. У канцы семінара яго ўдзельнікі наведалі адмысловую выставу ў чытальнай зале рукапісаў, старадрукаў і рэдкай кнігі. Яна была падрыхтавана з мэтай дэманстрацыі найбольш цікавых экземпляраў метрычных кніг 18-20 стагоддзяў.

Рэч ў тым, што ў НББ існуе надзвычай каштоўная, але пакуль мала вядомая шырокім колам даследчыкаў калекцыя дакументаў генеалагічнага характару. Гэта пераважна метрычныя кнігі аб нараджэнні, шлюбах і пахаваннях з праваслаўных, уніяцкіх і каталіцкіх храмаў розных куткоў Беларусі першай паловы 18 – сярэдзіны 20 стагоддзя. Пра некаторыя крыніцы ўдзельнікі семінару пачулі першымі, бо яны не былі ўведзены ў навуковы ўжытак: не былі прадстаўлены ў каталозе бібліятэкі, або не былі атрыбутаваныя з-за дэфекту тытульнага ліста дакументу.

Гэта, хай сабе невялікая, але сапраўды вельмі каштоўная калекцыя, паступова расце шляхам набыцця метрычных кніг у прыватных асоб і падарункаў ад неабыякавых беларусаў. Так, за 2019 г. да калекцыі далучылася яшчэ дзве каштоўныя адзінкі па ініцыятыве Уладзіміра Ліхадзедава, які запачаткаваў у НББ адмысловы імянны фонд.

Для чытачоў «РГ» безумоўна найбольш цікава даведацца пра новыя крыніцы з нашага колішняга Віленскага краю. Нядаўна Ліхадзедаў перадаў Кнігу перадшлюбных экзаменаў («брачных обысков») праваслаўнай царквы ў в. Норыца Пастаўскага раёну (раней – Вілейскага павету) за 1873 – 1883 гг.

Метрычныя кнігі каталіцкага парафіяльнага касцёла ў м. Пагост Мёрскага раёну (раней Дзісненскі павет, Віленскай губ.) за 1842 – 1888 г. Запісы 1920-30-ых гг. аб хрышчэннях, шлюбах і пахаваннях у стараверскай царквы ў в. Ракаўцы, Шаркаўшчынскі раён (зараз у рысе г.п. Шаркаўшчына).

Надзвычай інфарматыўная крыніца – Кніга перадшлюбных экзаменаў праваслаўнай царквы Святога Георгія ў Гальшанах Ашмянскага раёну за 1844 – 1845 гг. Разам з дадаткам – спаведнымі ведамасцямі прыхаджан царквы за 1922 г., якія дазваляюць аднавіць склад праваслаўных сем'яў мястэчка і наваколляў за «польскім часам».

Сапраўдны скарб НББ – метрычная кніга за 1715-1745 гг. са славутай пярліны беларускай архітэктуры – Камайскага касцёла. Больш за тры тысячы запісаў аб хрышчэнні ў парафіі за каралляваннем Аўгуста II Моцнага і Аўгуста III Саса. Рукапіс – сучаснік умураванага ў фасад бажніцы ядра часоў Паўночнай вайны. У кнізе ёсць разгорнутыя апісанні хрышчэння дзяцей тамтэйшай шляхты, напрыклад, роду Чаховічаў. Або цікавыя для краязнаўцаў запісы аб прыватным візіце ў касцёл Віленскага біскупа Міхала Яна Зянковіча ў 1734 г.

**Пазнейшыя метрыкі камайскай бажніцы захоўваюцца ў архівах Вільні, Гародні, НГА Беларусі. А ў НББ самая старая метрычная кніга з гэтага знакавага для Беларусі касцёлу, якая да апошняга часу заставалася невядомай!**



Старонка Будслаўскай метрыкі.

І бадай самая кранальная для нас генеалагічная крыніца – алфавітны спіс тых хто нарадзіўся, пашлюбаваў і памёр у будслаўскай парафіі з 1780-ых да пачатку 20 стагоддзя. Гэта не самі метрычныя кнігі, а сістматызаваны паказальнік да метрычных кніг (якія, на жаль, сёння захоўваюцца ў Вільні).

Прозвішчы жыхароў мястэчка і ваколіцаў перапісаныя дбайнай рукой божага слугі. Тут усе, хто нараджаўся, браўся шлюбам ці паміраў пад наглядам барочных вежаў касцёлу. Такая важная частка памяці Будслава, дзіўнай мясціны, дзе на Фэст збіраюцца дзясяткі тысяч пілігрымаў (нават ЮНЕСКА летась занесла гэтую падзею ў свой нататнік).

Тут без цяжкасцяў можна адшукаць запіс 1893 года аб нараджэнні нашай славутай зямлячкі Паўлінкі (Паўліны Мядзёлкі), жонкі міністра земляробства БНР Тамаша Грыба. А годам раней знаходзім запіс аб шлюбе бацькоў будучай беларускай дзяячкі – Вікенція і Францішкі Мядзёлкаў.

У завяршэнні хачу пажадаць плёну чытачам «РГ» у пошуках сваіх вытокаў і складанні радаводу!

**Анатоль СЦЕБУРАКА.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

# Замест музыкі «слухалі» рухавікі

## Як маладзечанец служыў на першым савецкім атамным ракетаносцы

**На флот Эдварда Руткоўскага прызвалі ў 1964 годзе. Яму было 19 гадоў. З 260 чалавек чатырох аб'яднаных ваенкаматаў Маладзечна, Вілейкі, Мядзела і Валожына ў ваенна-марскі флот трэба было набраць 12 чалавек. Але адабралі толькі шэсць, бо астатнія не прайшлі камісію.**

МАЛАДЗЕЧНА

Будучых маракоў адправілі ў Кранштадт, у вучэбны атрад падводнага плавання. Там Эдвард прайшоў курс маладога байца. Правучыўся 11 месяцаў.

У 1965 годзе юнак трапіў на Паўночны флот у Мурманскую вобласць, у Североморск. Адтуль – на падводную атамную лодку першага пакалення К19 у горад Ягельная Губа, цяпер Гаджыева.

### Досведу ў плаванні амаль не было

Падчас службы марак тройчы хадзіў у дальнія паходы. Першы – у 1966 годзе на Паўночны полюс, куды субмарына прайшла пада льдамі.

– Наша задача ў выпадку вайны заключалася ў тым, каб запускаць з лодкі ракеты. Вядома, былі вучэбныя стрэльбы – без атамных зарадаў, – тлумачыць субяседнік.

**На К19 яшчэ ў ліпені 1961 года, адбылася аварыя правага рэактара, радыяцыйнае становішча пагоршылася. Экіпаж эвакуіравалі, але восем чалавек загінулі, астатнія атрымалі дозы апраменьвання, якія ў шмат разоў перавышалі дапушчальныя.**

К19 – першы савецкі атамны ракетаносец. За шматлікія аварыі лодку на флоце называлі «Хірасіма». Некалькі чалавек загінула яшчэ да спуску падлодкі на ваду ў 1959 годзе. 12 лістапада 1960 года лодка ўступіла ў строй. Магла весці агонь толькі ў надводным становішчы.

Падчас паходаў у кожнага ў экіпажы былі дазіметры вымяраць дозу радыяцыі. Часам яна перавышала дапушчальны ўзровень.

Другі і трэці паходы – 1967 і 1968 гады служыць давялося на падлодцы таго ж класа К145. Падчас плаванняў былі ў Егіпце, В'етнаме, на Кубе, плавалі ў Ціхім акіяне.

### Як выглядала падлодка

Гэта атамная субмарына складалася з трывалага і лёгкага карпусоў. У прасторы паміж імі размяшчаліся цыстэрны галоўнага баласта. Каб лодка пагрузілася ў ваду, ёмістасці напаўняліся вадой. У вышыню трывалы корпус быў 6,9 метраў, лёгкі – 9,6. У даўжыню лодка складала больш за сто метраў.

**На ёй былі розныя адсекі, ізаляваныя адзін ад аднаго. Два тарпедныя, акумулятарны, камандны пункт, ракетны, дызельны, турбінны, адсек жывучасці, дзе стаяла ўсё кіраванне лодкай. Жылы – кожны выконваў пэўную функцыю.**

Падчас паходаў каманда не падымалася на паверхню зусім, толькі па заданнях усплывала на вызначаную глыбіню. Звычайна плавалі на глыбіні не больш за 240 метраў.

### Служыць было цяжка

На субмарыне служыла 114 чалавек. У асноўным, беларусы і ўкраінцы. Былі і рускія, служыў адзін армянін.

**– Цяжка было. Паход доўжыўся больш за 80 сутак. Адны і тыя ж людзі, падбіралі, каб былі падобныя характарамі. Мала рухаліся, ніякіх трэнажораў не было.**

Асабліва цяжка пераносілі тэмпературу. Вада за бартом – больш за 30 градусаў, у каюце – каля 40. Ахаладжальныя ўстаноўкі не спраўляліся. Узгадаю, і валасы дыбам становяцца. Уявіце, 40 градусаў, як у кансервавым слоіку.



Фота забяспечанае Эдвардам РУТКОЎСКІМ.

На адпачынку паміж паходамі. Злева направа Рыгор Яхімец, Эдвард Руткоўскі, Аляксандр Ліпа і Анатоль Шэпігузаў.

Расклад дня не змяняўся. Ад дзвюх да шасці раніцы – вахта, да 14 – адпачынак, зноў чатыры гадзіны вахта, потым да дзвюх – сон. Субяседнік дзеліцца, крэслы – па-марскому «банкі», – на якіх сядзелі падчас баявога поста, круціліся. Каб чалавек не прытуліўся да сцяны і не заснуў.

### Чым кармілі на субмарыне

Кармілі чатыры разы на дзень. На сняданак – 200 грамаў соку, 300 – кавы, палову батона, неабмежаваная колькасць масла, кілбасны ці сасісачны фарш, чорная або чырвоная ікра.

На абед – суп, боршч ці грыбны. Катлеты або біточкі з розным гарнірам, ікра, шакалад, 200 грамаў сухога віна. Вячэралі кашамі, разведзенымі сухім малаком. У дзевяць вечара атрымлівалі чай, печыва і мёд. Акрамя гэтага, у неабмежаванай колькасці можна было есці сушаную рыбу, селядзец, сушкі, сухары, сгушчонку, сок.

Быў нават хлеб. Каб ён захоўваўся доўгі час, боханы насычалі спіртам і захоўвалі ў цэлафанавым пакеце. Пры ўжыванні ў ежу разагравалі, і хлеб станавіўся свежым.

### Як адпачывалі на падлодцы

У камандным адсеку ў трумэ была курылка. Паліць пускалі па чарзе па тры чалавекі на хвіліну-паўтары. Жадаючых было шмат. Паветра, адпаведна, павінна было паспець адфільтравацца.

– Падчас адпачынку глядзелі кіно ў кают-кампаніі, некаторае па пяць разоў. «Каўказскую палонніцу», напрыклад. На паход бралася каля 50 фільмаў, вядома, усе ў запісах. Глядзелі хакей. Чэмпіянаты свету, Алімпійскія гульні. Замест музыкі «слухалі» рухавікі. Гулялі ў шахматы і шашкі. Больш за ўсё не хапала свежага паветра, зялёнай травы, сонца, ракі, леса.

З флоту ён звольніўся ў 1968 годзе ў званні галоўнага старшыны каманды электрыкаў. У наступным годзе ажаніўся – праз паўтара месяца пасля знаёмства. У 1970 у пары нарадзіўся сын **Віктар**. Праз чатыры гады – дачка **Алена.** З жонкай **Зінаідай** наш герой пражыў 41 год – яна памерла ў 2010.

**Пасля службы 27 гадоў Эдвард працаваў слесарам-мантажнікам, пасля ўладкаваўся ў прыватную фірму брыгадзірам-мантажнікам. У 2006 годзе пайшоў на пенсію.**



Фота Таццяны КАСЬЯН.

Эдварду Руткоўскаму цяпер 73 гады.

Падчас службы, заўважае Эдвард, не было «дзедаўшчыны», паважалі адзін аднаго, знаходзіліся ў аднолькавых умовах:

– Як казаў капітан другога рангу, камандзір дывізіёна падводных лодак брыгады падводных лодак Паўночнага флота Гаджыеў «Нідзе няма і не можа быць такой роўнасці перад смерцю, як сярод экіпажа Падводнай Лодкі, на якой або ўсе перамагаюць, або ўсе гінуць», – Эдвард паказвае памятны здымак са службы з цытатай.

На жаль, цяпер сувязь з саслужыўцамі амаль згубілася. Пасля распаду СССР змяніліся адрасы амаль ва ўсіх.

Кантактаваў з **Іванам Пінчуком**, які з-пад Ліды. Былы марак **Уладзімір Ярмолінскі** жыве ў Мінску.

На днях Эдвард трапіў на адрас прыяцеля **Рыгора Яхімца**. Стэлефанаваўся, узгадалі службу, і здалося, яна была толькі ўчора.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## Міжнародны турнір па гандболе на прызы Алімпійскага чэмпіёна Андрэя Барбашынскага адбудзецца ў Ашмянах

**АШМЯНЫ**

Шосты міжнародны турнір па гандболе на прызы Алімпійскага чэмпіёна Андрэя Барбашынскага пройдзе ад 26 па 29 красавіка ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе Ашмянаў.

У спаборніцтвах паўдзельнічаюць дзесяць каманд з Расіі, Латвіі, Украіны, Малдовы, Літвы, Беларусі. За прызавое месца будуць змагацца каманды юнакоў 2003-2004 гадоў нараджэння. Па традыцыі на гульнявое поле выйдуць і ветэраны гандбола разам з Андрэем Барбашынскім.

Андрэй Барбашынскі нарадзіўся ў Ашмянах. Доўгі час гуляў у складзе мінскага СКА, з якім станавіўся чэмпіёнам і ўладальнікам Кубка Савецкага Саюза. У 1992 годзе разам з партнёрамі па аб'яднанай камандзе СНД заваяваў золата на Алімпійскіх гульнях у Барселоне. Пасля завяршэння гульнявой кар'еры заслужаны майстар спорту Андрэй Барбашынскі пастаянна дапамагае юным выхаванцам Ашмянскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы, у якой ён пачынаў свой шлях да гандбола.

У лістападзе 2017 года рашэннем Ашмянскага раённага выканаўчага камітэта Ашмянскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе прысвоена званне Алімпійскага чэмпіёна Андрэя Станіслававіча Барбашынскага.

**Алена АЛЕКСАНДРОВІЧ, паводле osh.by.**

## У рэгіянальным дэрбі ФК «Смаргонь» перайграў ФК «Маладзечна»

**МАЛАДЗЕЧНА**
**СМАРГОНЬ**

30 сакавіка ў рамках міжсезоннай падрыхтоўкі ФК «Смаргонь» на сваім полі абыграў ФК «Маладзечна» – 2: 0. На 36-й хвіліне голам вызначыўся **Мікіта Шугункоў**, на 65-й – гулец, які знаходзіцца на праглядзе ў смаргонскай камандзе.

На 69-м абарончыя хвілінай стрэлкі форвард гасцей **Сяргей Крот** не выканаў пенальці ў вароты «Смаргоні». Брамнік гаспадароў **Мацвей Кажарновіч** парыраваў 11-метровы ўдар.

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**

## Батутыст з Вілейкі выступіць на ІІ Еўрапейскіх гульнях у Мінску

**ВІЛЕЙКА**

Трэнер лічыць, што выступіць перад сваімі заўзятарамі дрэнна батутысты не маюць права. Разам з **Іванам Літвіновічам** у гульнях паўдзельнічаюць іншыя выхаванцы трэнера – **Кацярына Яршова, Мікіта Фомчанка, Данііл Валынцаў**.

Нагадаем, што Іван Літвіновіч – ураджэнец Вілейкі, вучыцца ў Вілейскім дзяржаўным каледжы. Займацца пачынаў у Вілейскай спартыўнай школе ў трэнера **Пятра Зайцава**.

Мама Івана **Таццяна Літвіновіч** працуе трэнерам па акрабатыцы ў той жа школе. Яна і далучыла сына да спорта.

Сёння Іван Літвіновіч мае шэраг прэстыжных спартыўных узнагарод.

**Паводле БЕЛТА.**

## Каманда смаргонскіх дзюдаістаў стала прызёрам абласнога першынства

**СМАРГОНЬ**

На мінулым тыдні Смаргонь прымала абласное першынство па дзюдо сярод юнакоў і дзяўчат 2004–2005 гадоў нараджэння.

У камандным заліку, саступіўшы дзюдаістам Гродзенскай СДЮШАР №4, спартсменкі Смаргонскай СДЮШАР заваявалі другое месца.

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**

## Час правядзення матчаў серыі за трэцяе месца перанеслі

**МАЛАДЗЕЧНА**

1 красавіка завяршылася другая паўфінальная серыя плэй-оф. Гродзенскі «Нёман» на сваім лёдзе перамог 3:0 і аформіў сабе пуцёўку ў фінал. Такім чынам супернікам ХК «Дынама-Маладзечна» ў барацьбе за трэцяе месца стаў салігорскі «Шахцёр».

Федэрацыя хакея Рэспублікі Беларусь улічыла інтарэсы клубаў, гульцоў, заўзятараў і перанесла час правядзення матчаў серыі за трэцяе месца.

Матчы адбудуцца: 8 і 9 красавіка ў Салігорску, 11 і 12 красавіка ў Маладзечне, 14 красавіка ў Салігорску.

Серыя працягнецца да трох перамог адной з каманд.

**Паводле прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».**




Фота забяспечанае Андрэем АРЗАМАСЦАВЫМ.

Падчас суботняй трэніроўкі клуба аматараў бегу.

# У Смаргоні з'явіўся клуб аматараў бегу

**СМАРГОНЬ**

**Два тыдні таму ў Смаргоні з'явіўся клуб аматараў бегу – дабравольны бегавы рух для ўсіх аматараў. Дзеці і дарослыя, усе, хто любіць спорт, могуць прыходзіць на трэніроўкі і ўмацоўваць сваё здароўе.**

Жадаючыя збіраюцца на прабежкі ў аўторак, сераду і чацвер у 18:30 і ў суботу ў 15:00 ля помніка Леніну. Робяць размінку, прабежку, бегавыя практыкаванні, прыктыкаванні на расцяжку цягліц і суставаў – гэта карысна пасля трэніроўкі. Затым ідуць на футбольную пляцоўку гуляць у разнастайныя гульні з мячом, напрыклад, выбівалы ці два капітаны.

Пра сустрэчы даведваюцца ў чаце сацсеткі.

> **– Да нас могуць прыходзіць абсалютна ўсе, ніякіх патрабаванняў няма. Вядома, заняткі цалкам бясплатныя.**

Трэніроўка доўжыцца дзве гадзіны, але наведнікі колькі разоў казалі, што гэты час пралятае як пяць хвілін. Больш за ўсё пакуль што на занятку прыходзіла 17 чалавек – 12 дарослых і пяць дзяцей, – распавёў адзін з арганізатараў клуба, інструктар-метадыст Смаргонскага цэнтра фізкультурна-аздараўленчай і спартыўнай працы **Андрэй Арзамасцаў**.

Удзельнікі клуба ўжо паспелі прыняць удзел у дабрачынным паўмарафоне «Інакш», які 31 сакавіка арганізаваў у Мінску інклюзіўны спартыўны клуб «Крылы ангела».

> Даведка «РГ»: Паўмарафон «Інакш» – спаборніцтва, у якім нароўні з усімі ўдзельнічаюць бегуны з аўтызмам і атлеты ў калясках.

Забег праводзіўся па правілах «дыстанцыі, якая растае». Хто першы прабягае палову дыстанцыі, разварочваецца і вяртаецца назад. Усе, каго ён сустрэў, таксама бягуць за ім.

– Многія жадаючыя займацца ў клубе жывуць далёка, таму трэніруюцца асобна, але гатовыя ўступіць да нас і выступаць за наш клуб. Ведаю, цяпер шмат хто выступае ў маладзечанскім клубе аматараў бегу «Рэгіён» за Маладзечна. У мяне нарадзілася ідэя стварыць свой клуб і выступаць за Смаргонь, чым мы горшыя, – расказвае Арзамасцаў. – У ініцыятыўнай групе, акрамя мяне, былі мае сябры – **Таццяна Куцакова**, **Кацярына Апановіч**, **Арцём Апановіч**, **Святлана Дрэўс**, **Вадзім Пракаповіч**. Расказаў ім, падтрымалі, сказалі, ідэя карысная для людзей. Сталі дапамагаць, прасоўваць рух у сацсетках, расказваць знаёмым.

> **Клуб пакуль афіцыйна не аформлены, але, па словах Арзамасцава, гэта толькі справа часу.**

– Для ўступлення ў клуб будзем прасіць толькі напісаць заяву. Наконт аплаты, магчыма, увядзём дабравольныя ўнёскі – невялікія, напрыклад, па пяць рублёў, каб набыць інвентар.

> **Будзем старацца прыцягваць спонсараў, – расказвае Арзамасцаў.**

Наведнік клуба **Руслан Цыбоўскі** даведаўся пра яго ад сяброўкі **Іны Ламаноўскай**.

– Папрасіла мяне скласці ёй кампанію на прабежцы. Па сутнасці, гэта была першая прабежка клуба. Там пазнаёміўся з астатнімі ўдзельнікамі. Пасля першай прабежкі вырашыў, што яна будзе не апошняй.

> **Атрымаў масу станоўчых эмоцый, зарад бадзёрасці і энергіі і новыя знаёмствы з цікавымі людзьмі, – расказвае Руслан.**

– Наогул, да здаровага ладу жыцця стаўлюся станоўча, бо гэта не толькі карысна для здароўя, спорт яшчэ спрыяе развіццю вынослівасці, росту мышцаў, што прыводзіць у выдатную форму цела.

> **Знайсці падрабязную інфармацыю пра клуб можна па хэштэгу #followsmorgon.**

**Таццяна КАСЬЯН.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Частка акружнасці або круглаватай крывой лініі.
4. Батанічны сад у гэтым горадзе трэці па велічыні ў свеце.
5. Дзіцячая цацка ў выглядзе фігуркі чалавека.
8. Водступ управа ў пачатку першага радка тэксту.
10. Топленае свіное сала.
11. Здольнасць, талент.
12. Узяцце пад варту; пазбаўленне волі.
13. Частка механізма, машыны.
14. Імклівы напад на пазіцыі праціўніка.
15. Харчовы прадукт з прэснага цеста ў выглядзе тонкіх трубачак.
19. Італьянскі футбольны клуб, які двойчы згуляў з барысаўскім БАТЭ з роўным лікам.
20. Тое, што перавышае норму, меру.
22. Калі гэты знакаміты футбаліст выпусціў аўтабіяграфічную кнігу, многія бразільцы пачалі вучыцца чытаць.
23. Гэтае слова паходзіць з цюркскага «маёмасць, скаціна, тавар». У 19 стагоддзі слова набыло палітычную афарбоўку.
24. Орган дыхання ў чалавека і пазваночных жывёл, размешчаны ў грудной поласці.
25. Прадмет сталовага прыбора для зачэрпвання рэдкай або рассыпістай ежы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Дэкадэнцкі напрамак у архітэктуры, дэкаратыўным і выяўленчым мастацтве ў канцы 19 — пачатку 20 стагоддзяў, які характарызаваўся манернасцю, замысловатасцю, фармалістычнасцю.
3. Кавалак.
4. Тое, што і мышца.
6. Трэці ў свеце па папулярнасці дадатак для абмена паведамленнямі. Стварылі беларусы.
7. Гэтая рака пастаўляе ў Каспійскае мора каля 80% прэснай вады.
9. Панаванне ў пэўным грамадскім асяроддзі тых ці іншых густаў, якія праяўляюцца пераважна ў асаблівасцях адзення.
11. Кіраўнік прадпрыемства.
13. Штучнае валакно, падобнае на капрон. Назва з'явілася ад наймення краіны, дзе вынайшлі матэрыял – ГДР.
16. Для гэтага персанажа вырабілі самае вялікае крэсла ў свеце вышынёй 16 метраў.
17. Невялікі прадмет, што носяць на целе як магічны сродак, быццам бы здольны засцерагчы ад няшчасця, хваробы.
18. Гэтым колерам называюць гадзіну, калі пачынае змяркацца.
21. Па колькасці іх Беларусь традыцыйна наперадзе ўсёй Еўропы штогод. Іх так шмат з-за вялікай колькасці войнаў, што былі менавіта тут.
22. Горад, які лічыцца геаграфічным цэнтрам Еўропы.

## Адказы на крыжаванку з №13

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Чэрап. 4. Жывёла. 6. Вясна. 7. Малпа. 8. Хмызняк. 11. Хвароба. 12. Маладзік. 13. Жменя. 16. Пяроў. 18. Карфаген. 20. Кава. 22. Жыцць. 23. Трамп. 26. Хімія.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Прыкры. 3. Павідла. 5. Ціскі. 8. Хунта. 9. Характар. 10. Пагоня. 14. Акропаль. 15. Пена. 17. Падрад. 19. Музыка. 21. Жарства. 22. Жакей. 24. Манах. 25. Дробня. 27. Мост.



УНП 600136804

## ● ГАРАСКОП 5-11 КРАСАВІКА

**АВЕН.** Дзейнічайце, каб знайсці мэту ў жыцці. Яна не знойдзе сябе сама. Дапамажыце ёй у гэтым і рабіце ўсё магчымае, каб адшукаць мэту. І памятайце, што самыя здаровыя і прыгожыя людзі – гэта тыя, якіх нічога не раздражняе

**ЦЯЛЕЦ.** Не зацыклівайцеся на фінансавым баку жыцця. Грошы ж не самае галоўнае, яны прыходзяць і сыходзяць. А вось новыя рамантычныя адносіны адцягнуць увагу ад розных перажыванняў.

**БЛІЗНЯТЫ.** Дзверы новых магчымасцяў зноў шырока адчыненыя перад вамі. Трэба толькі дачакацца адпаведнага моманту, які, дарэчы, можа здавацца на першы погляд зусім выпадковым. У вас павышаецца дзелавая актыўнасць. Галоўнае, не канцэнтруйце сваю ўвагу на цяжкасцях, а праявіце спрыт і схіліце сітуацыю, якая склалася, на свой бок.

**РАК.** Выдатны перыяд, аднолькава добры як для новых спраў, так і для завяршэння старых. Вам шанцуе ва ўсім, карыстайцеся гэтым, каб дасягнуць поспеху.

**ЛЕЎ.** Ваша інтэлектуальная актыўнасць – на вышыні, дзелавая хватка – таксама. У выхадныя не выключаны нечаканыя прыгоды, але здаровы розум пажадана не губляць.

**ДЗЕВА.** Магчыма, што на вашу галаву нечакана абрынуцца сямейныя праблемы, так што загадзя набярыцеся цярпення і сіл для іх вырашэння. Не адмаўляйцеся ад запрашэння, яго варта прыняць, і тады вы атрымаеце магчымасць займець, як мінімум, цікавага суразмоўцу.

**ШАЛІ.** «Праз церні да зорак» – так і ў вас. Усе дні вы будзеце знаходзіцца ў барацьбе з самім сабой, разрываючыся паміж жаданнем адпачыць і патрэбай рухацца наперад. У вашым жыцці наступае нейкі пераломны момант, калі вы вольныя яго змяніць так, як захочаце, з чымсьці расстацца і штосьці атрымаць узамен. Гэта, хутчэй, ваша патрэба, чым воля лёсу.

**СКАРПІЁН.** Прадуктыўны, але і складаны перыяд. Вы заўсёды імкняцеся быць на вышыні, быць першым, часам можаце зрабіць немагчымае магчымым. Але бывае, што нешта і вам не па зубах. Галоўнае, не расслабляйцеся, ідзіце да пастаўленай мэты.

**СТРАЛЕЦ.** Вам карысная інтэлектуальная праца. Па вечарах замест таго, каб проста глядзець тэлевізар, паразгадвайце красворды ці пагуляйце ў «Эрудыт», можна патраціць час на любыя галаваломкі.

**КАЗЯРОГ.** На асабістым фронце добра было б узнавіць былыя адносіны і наладзіць перарваныя кантакты. Прывесці да ўскладненняў могуць агрэсіўнасць і неабдуманы дадзеныя абяцанні.

**ВАДАЛЕЙ.** Фінансы запатрабуюць рацыянальнага падыходу, было б добра запісваць нават дробныя расходы, каб не ўзнікала пытанняў. Вам парада: лавіце выпадак, дзейнічайце – і вам усміхнецца Фартуна.

**РЫБЫ.** Спрыяльны перыяд, каб паклапаціцца пра здароўе. Аднак, каб дабіцца сур'ёзных станоўчых вынікаў, неабходна будзе набрацца цярпення. Не адмаўляйцеся ад прапаноў, якія, на ваш погляд, перспектыўныя і жаданыя.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | 4 | | | 1 | 5 | | |
| 8 | | | | | | | 6 | 4 |
| | 5 | | | | 8 | 9 | | 7 |
| | | | 5 | 1 | | | | |
| | 9 | | | | 3 | 8 | | |
| 3 | 6 | | | | 9 | 2 | | |
| | 8 | 6 | | 5 | | | | 2 |
| | | | | | | 7 | 1 | 6 |
| | | 7 | 3 | | | 4 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017








## 6 красавіка, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 5-7 м/с

| | |
|---|---|
| **Маладзечна**<br>**Ашмяны**<br>**Астравец** | +1 |
| **Мядзел**<br>**Вілейка** | +12 |
| **Валожын**<br>**Смаргонь** | Хмарна з праясненнямі |







## Вясновым сонейкам сагрэта «Рэгіянальная газета»



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*





● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці бралі вы калі-небудзь крэдыт ці растэрміноўку?



**Валеры Пятроўскі, плотнік:**

– Растэрміноўку браў каля 14 гадоў таму. Першы раз на фотаапарат. Пасля яе засталіся вельмі негатыўныя ўражанні. А крэдыт, думаю, гэта зручны спосаб атрымаць тавар адразу, калі працэнты нармальныя, але ў нас, напэўна, такіх няма. Таму імкнуся абыходзіцца без іх, збіраць.



**Настасся Шавель, у дэкрэтным адпачынку:**

– Так, і тое, і тое. Вядома, калі ёсць магчымасць набыць тавар адразу, добра. Але яна ёсць не заўжды, таму пазыка ратуе. Больш аддаём перавагу растэрміноўцы, бо няма ніякіх пераплат, што вельмі зручна.



**Руслан Маліцкі, тэхнік-механік:**

– Браў тэлефон некалі ў растэрміноўку. Мяркую, крэдыты лепш не браць, не прыхільнік я крэдытаў. Я не супраць, хтосьці мае патрэбу ў іх. Але бярэш чужое, а аддаваць трэба сваё.



**Вольга Пагірэйчык, філолаг:**

– На тэлевізар, тэлефоны, камп'ютар, аўтамабіль. Цяпер лічу, крэдыты створаныя спецыяльна для бедных. За рэчы доўга пераплачваеш, адрываеш грошы ад сям'і. Сучасная пастка – карты з мікракрэдытамі пад вар'яцкі працэнт. Крыўдна, што ўзровень беднасці ў краіне робіць крэдыты для людзей прывабнымі.



**Паліна Субаткоўская, аператар кол-цэнтра:**

– Я непаўнагадовая, таму нічога не брала, а наогул, не вельмі добра стаўлюся да растэрміновак або крэдытаў, бо ты становішся залежным.



**Аляксей Караганаў, студэнт:**

– Не браў і ў далейшым не збіраюся. У растэрміноўку браць тавар зручна, – плаціць суму па частках. Лічу, што ад крэдыту можна адмовіцца, лепш пазычыць грошай у доўг у сяброў, сваякоў ці знаёмых, чым пасля ўзяцца крэдыту пераплачваць.



**Ларыса Язневіч, займацца арганізацыяй сямейных урачыстасцяў:**

– Крэдыты ніколі не брала і не збіраюся. Усе буйныя пакупкі плануем у сям'і загадзя. Тыя людзі, якія ўмеюць лічыць грошы, разумеюць, што з крэдытам выйдзе ў разы даражэй.

**Падрыхтавала Тацццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№14 (1249) 5.04.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 523. Падпісана ў друк у 9.00 4.04.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.